*Яўген Міклашэўскі*

# ЗАРА-ЗАРАНКА, ЗАРА-ВЯЧЭРНІЦА

*Кніга лірыкі*

*Мінск*
*«Мастацкая літаратура»*
*1989*

ББК 84Бел7
М 59

В новую книгу Евгения Миклашевского вошли стихи всех жанров лирической поэзии — от баллад и поэтической публицистики до пейзажных зарисовок.

Поэт стремится осмыслить происходящие в нашей жизни социально-общественные явления, размышляет над непреходящими проблемами добра и зла, любви и ненависти, смысла человеческой жизни, прославляет извечный труд земледельца.

Широко представлена в книге любовная лирика (циклы «Альбом дзесяцікласніцы», «Каханне ў мяне было», «Сустрэчы і захапленні», «Жанчына і мужчына», «Ты — мой радасны спеў»).

М $\frac{4702120202—013}{М 302(03)—89}$ 59—89

ISBN 5-340-00203-9

***

*Мы — беларусы, людзі не гордыя —*
*Свет надзяляем славай сваёй.*
*Край наш — раўнінны, выступы горныя*
*Не засцілаюць далеч смугой...*
*Землі — пясчана-балотныя, ворныя,*
*А краявіды — лясныя, азёрныя,*
*З елкай, бярозай, сасной палявой.*

*Мы, беларусы, працай славутыя*
*І да зямелькі роднай сваёй*
*Не ланцугамі — доляй прыкутыя,*
*Ды незламаныя, ды несагнутыя*
*Нашым мінулым, бядой векавой.*
*Зімы былі ў нас умерана лютыя,*
*Доля — з празмернаю гарачынёй.*

*Мы — беларусы, і ўсё гэтым сказана.*
*Трэба — умеем сустрэць і прыняць.*
*Слава народная — не напаказ яна:*
*Той, хто захоча, убачыць, відаць.*
*Працы — мы лёсам сваім абавязаны,*
*Але пра гэта і явары з вязамі*
*Ціха на мове спрадвечнай шумяць.*



# ПАД НЕПАЗБЕЖНЫМ ЗНАКАМ ПЕРАМЕН





## ПРАМЕНЬ,
## МОЙ ЗАЙЧЫК СОНЕЧНЫ

Прамень, мой зайчык сонечны,
І зноў ты на сцяне?
Ніколі ты не стомішся,
Не надакучыш мне.

І пад вясёлкай яркаю,
Што стане ў час дажджу,
Нібы пад райскай аркаю,
Я між гаёў хаджу...

Ты быў спрадвечнай тайнаю —
Стагоддзям страціў лік.
Як цуд, дугу спектральную
Паказваў, чараўнік.
Але ў хвіліну слабасці
Сакрэт ты выдаў свой,
І свет, адкрыцці славячы,
Любуецца табой.
І на слупах, расколаты,

У ліхтарах да дня
Нам свеціш, як асколак, ты —
Асколак прамяня.

Начны бульвар і вуліца
Асветлены, як днём,
І цені ночы туляцца,
Як здані, за акном.
І лямпачкі сузор'ямі
Мігцяць, і сонцы лямп,
І водбліскамі зорнымі
Бягуць агні рэклам.
Свяжэе подых Свіслачы,
І ў люстрах глыбіні
Пагойдваюцца, віснучы,
Туманныя агні.

Шкада, што не здараецца
Табе пабачыць іх —
Як свецяць нам да раніцы
Сем колераў тваіх!

## НА ВУЛІЦЫ ШУМНАЙ

1

Летні горад. Спякотна і тлумна.
Але вось навальніцай дыхне —
І згадаеш на вуліцы шумнай,
У якой ты жывеш старане!

І ў лясной, і ў блакітна-азёрнай,
Дзе і сонца,
і песень стае,
Ды не цёмнаю ноччу, не зорнай —
Ясным днём ты пакінуў яе.

І, стаміўшыся, позна ці рана,
Ты сумуеш без лесу і ніў,
І між іх берагоў несціхана
Б'ецца дум тваіх вечны прыліў.

2

Гэты грукат трывожыць душу мне,
Гэты гул непакоіць мяне.
Мне няўтульна на вуліцы шумнай
І самотна ў лясным будане.
Я сумую па вечным спакоі,
Дзе ні тлуму,
ні шуму машын,
І, абуджаны пошумам хвоі,
Зноў нуджуся па музыцы шын.

Як дзіця рэактыўнага звону,
І душа мая траціць спакой

І ўцякае ад гмахаў з бетону
На лугі, што цвітуць за ракой.
То гасцінец пыліць, то прасёлак,
І яна, каб за часам паспець,
Па асфальце імчыцца на колах,
Калі хоча на крылах ляцець.

## ПАДАБЕНСТВА ЧАЛАВЕЧЫХ ТВАРАЎ

Як змен ніякіх не чакаецца,
А хвалі часу б'юць мацней,—
Часцей аблічча сустракаюцца,
Якія бачыў ты раней.

Ад успамінаў не схаваешся —
Бяжыш за імі наўздагон...
З вагона ідучы ў вагон,
Я пазнаю свайго таварыша,
Але, відаць,
кудысь спяшаючы,
Не хоча адгукнуцца ён.

Ці раптам сэрца ўздрыгне нечага,
І позірк адвядзеш хутчэй
Ад сіні дарагіх вачэй,
Што ў веснавым сутонні вечара
Са схаваў памяці прыгнечанай
Засвеціць, бліснуўшы, ярчэй.

А зазірнуць у іх асмелішся
І ўбачыш —
гэта не яна
Стаіць журботна ля акна,
Нібы сумуе па вясне яшчэ.
І вочы іншыя, сінеючы,
Душу прасвечваюць да дна.

Зірнеш на постаць незнаёмага
І... нешта цягне да яго,
Нібы да роднага свайго,

На рысы твару нерухомага
Глядзіш не ведаеш чаго.
І твар як быццам ажыўляецца
І ўсмешкай раптам азараецца:
«Ты, дружа, што... Не пазнаеш?» —
«Здароў!» — «Здароў! Ну як жывеш?»

## ЭКСПРЭСІЎНЫ ЭКСПРОМТ

Якія парывы і страсці
Спустошваюць сэрцы людскія?
Якія прыходзяць няшчасці,
Жаданні і мары якія,
Калі ўсе наеты, напіты,
Агорнуты сытымі снамі,
Спавіты ў атлас, аксаміты,
Здабытыя ў казачнай краме.

Якая быць можа ахвярнасць
І добразычлівасць якая,
Як лезе на сцэну бяздарнасць
І выйсце зласлівасць шукае?
Улада сябруе з уладай,
Пасада — з пасадай другою...
Якая тут будзе спагада
Таму, хто спаткаўся з бядою?!.

Парывы душы? Перастаньце!
І так мы ваюем не ў меру
За лепшы крышталь у серванце,
За лепшы медаль ці кватэру.
Як жыць — толькі ў лепшым раёне,
Хапаючы зоркі з блакіту.
Багі нашы — ідалы сёння:
Культ рэчаў і культ дабрабыту!

Разумнаю сілай мастацтва
Мы потым іх з месца не зрушым.
З якім заклінаннем звяртацца
І што абяцаць яшчэ душам?
І звер, калі сыты,— лагодны.

Адзін гомо сапіенс гэты
Тым больш небяспечны і шкодны,
Чым болей напіты, наеты.

Не гэты, даруйце, не гэты,
Што робіць адкрыцці і цуды,
Каб водбліск блакітнай планеты
Быў светлы, як гукі прэлюдый.
Не той, хто жыццём ахвяруе,
Што, бліснуўшы знічкай начною,
Надзеі людской падаруе
Магчымасць успыхнуць зарою...

Дык хто ж ён, чарвяк ненажэрны,
Хто ўцехай душы пагарджае?
Каго ж дабрабыт энтэрны,
Нібы слімака, адраджае?
Хто ён? Мешчанін самавіты!
Як вырадак нейкі бязродны,
Чым болей наеты, напіты,
Тым больш ненаедны і шкодны!

***

Гэта добра ці дрэнна —
Не пытайце дарэмна:
Я не ведаю зараз нічога.
І нявечнасць зямная
Больш мяне не кранае,
Як малітвы — спрадвечнага бога.

Сонца ў хмарах — не нова,
Праўда ў змроку — часова.
Я і сам не бязгрэшны, дарэчы.
Хоць іду асцярожна,
Ды на яблыні кожнай
Спеюць яблыкі — грэх чалавечы.

Калі яблыня — дрэва,
Пад якім бабка Ева
Спакусіла калісьці Адама,
Значыць, будзе часіна —
Дзень, калі і асіна
Стане дрэвам спакусы таксама.

## БЮРАКРАТ
## ПЕРАД РАЙСКІМІ ВАРОТАМІ

**(Сучасная балада
на спрадвечную тэму)**

Зачыніўшы ў шафах дубовых
Гару папяровых спраў,
Што, як шквал, прайшлі па ўстановах,
Канцы бюракрат аддаў.
Ды аддаў ён душу не богу
(А каму — невядома пакуль),
І ніхто не хацеў нябогу
Забіраць і несці адсюль.

І апостал Пятро, ключамі
Праграмеўшы, зірнуў на дол
І сваімі ўбачыў вачамі,
Што ні з чым вяртаўся анёл.
Гэта быў малодшы інспектар
(У бога вялікі штат).
Ён курыраваў доўга сектар,
Дзе жыў і памёр бюракрат.

«Далібог,— ён падумаў,— смешна...
Няма на свеце дабра! —
І хадой, як знарок, няспешнай
Пайшоў напрост да Пятра.—
Хіба ж служба мая вінавата,—
Пракрычаў ён Пятру,— калі
Забіраць душу бюракрата
Вы каманду нам не далі?!.» —
«Ну і як ён на выгляд?» — «Жудкі!
Было ў нас такіх няшмат:
Заўтра пойдуць сёмыя суткі,
Як дуба даў бюракрат.

Я пашлю аднаго чарцяку...
Наш клопат — усё ж душа.
Хай прынёс бы ўжо небараку...» —
«Не прасі адно алкаша».—
«Не прасі... Я дам на «чарніла»,
А фінансаў у нас... стае.
Дык няхай хоць гэты дэбіла
Нам хутчэй прынясе яе».—
«Ён падыме душу чынушы? —
Запытаў анёла Пятро.—
Хай бярэ, калі што, за вушы
Ці падчэпіць чым за рабро.
Знаеш, дай ты яму на мыла,
На «чарніла» лепш не давай,
Бо тады нячыстая сіла
І не ўспомніць, відаць, пра рай...
Па гарэлку чэргі даўгія,
І, калі яе прывязуць,
Выпівохі, як чэрці, злыя
Нават чорту хвост адарвуць.
Ён жа стане ў чаргу нарэшце...
Прастаіць, разявіўшы рот,
Аж да пеўняў... Не абярэшся
Ты з нячыстым гэтым турбот.
А нап'ецца — і розум страціць.
Паласаты ж не ўмее піць...
І яшчэ ў выцвярэзнік трапіць,
Потым прыйдзецца нам плаціць!»

Ну і чорт па душу патэпаў...
А была яна хвіляй той —
Як авечкі калмыцкіх стэпаў
У канцы зімоўкі цяжкой.
І апостал з ціхай жальбою
Нахіліўся моўчкі над ёй

І апостальскаю слязою
Акрапіў, як жывой вадой.

«Ты каму служыла? Мярзотніку?
Не спяшай: падумай спярша...» —
«Не, кіруючаму работніку»,—
Адказала Пятру душа.
«Хіба ж ёсць такая прафесія?» —
У здзіўленні спытаў Пятро.
«А хіба з ім сядзела ў лесе я?
Паглядзі на маё таўро...» —
«Чартаўшчына! — сказаў апостал.—
Тут напісана слова «глаўк»...
Гэта слова не выйшла ростам,
Як, да прыкладу, «тамагаўк».—
«Тамагаўк» — індзейская зброя,—
Адказала душа Пятру.—
Ну а «глаўк» — міністэрства, якое
Я і ў райскім садзе ствару...» —
«Што там робяць?» — «Кіруюць няўдала...
І не хочуць лічыцца ні з чым».—
«Ты пры гэтым была?» — «Памагала...
Кіравала падшэфным сваім».—
«Той, каму ты належала... Хто ён?
Раскажы пра яго крыху.
Ды нічога ад нас не ўтойвай:
Толькі праўду! Як на духу...»

«Кім ён быў? Начальнікам глаўка.
Ад яго залежала шмат:
Як асноўны стоўп спецпрылаўка,
У руках трымаў апарат.
Ён пладзіў штодзень цыркуляры,
Як трусы сваіх трусянят.

І пад ціхі шэпт канцылярый
Развіваў кумаўство і блат.
Планаваў, засядаў, размяркоўваў
Дэфіцыт між сваіх спажыўцоў
І таму, хто больш прапаноўваў,
Ён не раз насустрач ішоў.
Ухваляў «сустрэчныя планы»,
Гэта значыць — хабар... Аднак
Не з'яўляўся на працу п'яны,
Калі піў, дык толькі каньяк...
Меў машыну, свайго шафёра.
Ездзіў сам і вазіў сям'ю,
І не знаў ніякага гора
Ён за ўсю кар'еру сваю.
План выконваў любой цаною:
Махляваў, прыпіскі рабіў.
Ні з людзьмі, ні з дзяржаўнай казною
Цырымоніцца не любіў...
І з паненкамі некісейнымі
Ён крадком ад сям'і і мас
У падпольных лазнях з басейнамі
Тайна бавіў свой вольны час...» —
«А сумленне ён меў?» — «Якое
Там сумленне ў чынушы? Ён
Калі думаў — толькі пра тое,
Як спрытней абысці закон».—
«І душа была ў бюракрата?» —
«Зразумела, была... Гэта ж — я!» —
«Дык скажы: вялікаю стратай
Можа стаць пагібель твая?» —
«Безумоўна... Чыноўныя душы
Пераменяць зямлю спакваля.
Дык няўжо ж у гонар чынушы
Не паставіць помнік Зямля?!.» —
«Калі так, выбірайся адгэтуль! —

Адказаў апостал Пятро.—
Як чыноўнік быў прайдзісветам,
Дык такое ў яго і нутро».

І чарцяка з рублём у кішэні
Зноў душу бюракрата панёс
Ад варот,
дзе не гасла мігценне,
На другую палову нябёс.

І душа, хоць маланкай ляцела,
Акалела ў дарозе даўно
І на тысячу вёрст ляскацела,
Як вар'ятка, зубамі ажно.

Твар ёй пылам касмічным секла,
А мароз да касцей праймаў,
І здавалася раем пекла,
Дзе пад прорвай агонь шугаў.

Як і рай, усё пекла таксама
Агароджана дротам было.
На замок зачынялася брама,
З-пад якой біла хваляй цяпло.

«Хто такія?» — іх чорт аклікнуў,
І з'явілася... Баба-Яга
З качаргой (найвялікшай з рэліквій
Тут, у пекле, была качарга).

А душа, што зусім адубела,
Так прыпала да цёплых варот,
Што, відаць, і Яга зразумела:
Быў нялёгкі ў яе пералёт.

«Ты чыя?» — «Я — душа бюракрата,—
Адказала са страхам яна.—
І ў смяротных грахах вінавата —
І ў сваіх і ў чужых — я адна!» —
«Ну а дзе працаваў твой чыноўнік?» —
«Кіраваў асушэннем балот...» —
«Ён балоты знішчаў? Ну, гвалтоўнік!
Прэч ад пекла! Ад гэтых варот...
Ты завыеш, благаючы смерці!
Вы балоты асушвалі, дзе
Спакон веку жылі толькі чэрці —
Больш прытулку няма ім нідзе...
І не будзе прытулку чынушам!
Мы адпомсцім за крыўду і здзек:
Іх аблезлым чыноўніцкім душам
Пекла будзе закрыта навек!»

І ўраганы,
тайфуны бушуюць,
Як відаць, на зямлі нездарма:
Плоймы душ у сусвеце вандруюць —
І нідзе ім прытулку няма!

Калі душы чыноўнікаў змрочных,
Пакідаючы чорны свой след
Ад Байкала да рэчак паўночных,
Запалоняць дарэшты сусвет,—
Знікне рай,
потым — райскія птушкі...
І — пры пэўнай спрыяльнасці зор —
Служкі бога і д'яблавы служкі
Спешна склікалі тайны сабор.

Запрасілі і рымскага папу,
Але папа з'явіцца не змог...

І на круглую селі канапу,
Разам селі і д'ябал і бог.
Каб «той свет» — рай і пекла — чынушы
Не разбурылі ўшчэнт,
як віхор,
Чорным пылам развейваць іх душы,
Кажуць,
выраШыў гэты сабор.

## ГАЗЕТНЫ ЗДЫМАК

Мой позірк упаў на здымак,
Што, выразаны з газет,
Застаўся як напамінак
Аб часе страхаў і бед.

Стаіць Ён, шчасліва гэтак,
З дзяўчынкаю на руках.
Дзяўчынка — з букетам кветак
І стужкамі ў валасах.

Цудоўнае свята Мая,
Святочнае шэсце калон,
І, як правадыр, прымае
Праяву ўдзячнасці Ён...

І думка прыйшла міжволі:
Дзе тая дзяўчынка? Яе
Пакінуў Бацька на волі,
На рукі ўзяўшы свае?

Ці, можа, букет дзяўчынкі
Падазроным здаўся каму,
І лёс за чужыя ўчынкі
Наканаваў ёй турму...

Як скарб, захапіўшы ўладу,
Ён не сышоў на зямлю.
І ў вернасці бачыў здраду,
А ў праўдзе — ганьбу сваю.

Падслухоўваў каля гасцінна
Адкрытых яму дзвярэй

І ў боязі штохвілінна́й
Уздрыгваў ад смеху дзяцей.

Жыццё яго — прыклад многім —
Урокам павінна быць
Усім, хто захоча богам
Сябе на міг аб'явіць.

## РЭАБІЛІТАЦЫЯ ПЕСІМІСТАЎ

Кінем лозунг мы часамі,
Шум падымем — о-ё-ёй!
А назаўтра — замяшанне:
Высвятляецца — не той...
Часам трэба кінуць лозунг
І пачын зрабіць, але ж...
Дзе ён, той народны розум:
«Перш адмерай, потым рэж...»

— Ты, брат, з гэтым... асцярожней:
Гэтак скоцішся і ўніз,
І трапло пустапарожні
Падсумуе: «Песіміст! —
І дадасць: — З агнём гуляеш.
Ты смялей вакол зірні:
Без падставы адмаўляеш
Перспектывы балбатні...»

Мо і так, ды я — за тое,
Каб паменш рапартаваць:
Я з парожняга ў пустое
Не люблю пераліваць.
— Ну а ў тым славутым годзе
Не хацеў і ты, відаць,
Каб праз два дзесяцігоддзі
Мэту — яваю назваць?

І, маўляў, за пражэкцёрам
Паўтараць не будзеш ты,
Каб даверыць і вахцёрам
Кіраўнічыя пасты.

Песіміст... Дык што ж такое
Ён урэшце? Сапраўды —
У яго нутро пустое:
Ён крадком глядзіць... туды?

Я ж — за гэтых, за надзьмутых,
Толькі ўдалых, дзелавых.
Колькі дзеячаў славутых
І было, і ёсць між іх!
Песіміст — не легкадумны,
І найлепшы аптыміст —
Гэта шчыры, ды разумны,
Ды талковы песіміст!

***

Мы і слабыя і магутныя.
З сабой нясём святло і змрок.
Перажываем дні пакутныя,
Прасвет не ўбачыўшы здалёк.
І, каб не стала праца марнаю,
Уласным сэрцам і крывёй
Мы ажыўляем глыбы мармуру,
Надаючы ім воблік свой.

Мы не зласлівыя,
мы — добрыя,
І нас катуе ліхадзей
І чалавеканепадобныя
Пачвары ў вобліку людзей.
Мы — людзі мудрыя, багатыя
На зло, дабро, любоў і злосць...
І мы зусім не вінаватыя,
Што хочам большага, чым ёсць.

Мы хочам крышачку праслаўіцца,
І гэта знаюць паўзуны.
І непрыкметна нашы слабасці
Выкарыстоўваюць яны.
Хамелеон —
як жыць гаротнаму? —
Скране ліслівасцю скалу,
Таму што кожнаму смяротнаму
Пачуць прыемна пахвалу.

І хоць між намі Мендзялеевы,
Талстыя і Скарыны ёсць,
Мы ўсе прыродай не абдзелены

І спадзяваемся на штось.
І так ідзём за тою зоркаю,
Якую будучым завём,
Ідзём з упэўненасцю горкаю,
Што недарэмна мы жывём.

***

Пакуль няма чароўнага прыбора,
Што мог бы промнем душы прасвяціць
Ці думкі прачытаць — яшчэ не гора,
Яшчэ на гэтым свеце можна жыць.
Як паважаем мы адзін другога,
Чаго жадаем блізкім і сябрам
Ці як маўчым, каб не сказаць нічога,
Відаць, найлепш не ведаць гэта нам.
Бо немагчыма стане жыць на свеце,
Не хопіць нам галактыкі адной,
Каб па двух на зорцы ці планеце
Больш-менш утульна рассяліцца ў ёй.
І там тужыць — у далечы касмічнай —
І сумаваць адзін па аднаму,
Ракеты вынаходзіць сімвалічна
І верыць вынаходніцтву свайму...
Шмат у бяздарных спадзяванняў марных,
І кожны з нас пакутліва маўчыць.
І калі трэба пахваліць бяздарных,
Ён, як нямы, у роспачы мычыць.
А пахвалы чакаюць, прагнуць, просяць
З тугой, журбой, надзеяй у вачах.
І колькі, бачу, крыўды пераносяць
Мае сябры-паэты на плячах.
Але не толькі на плячах — і ў сэрцы,
Якое, што там ні кажы, баліць...
За кепскі верш — не стукнуць па манерцы,
Ну а за добры — чарку не наліць.

***

Ты нечага варты? Магчыма, і так.
Утульна пад сонцам улады.
І дом твой як поўная чара... Аднак
Хіба гэта шчасце? Ты рады?
Ці, можа, пакрылася сэрца луской —
Не пройме ніякае слова!
За ўсё, што ты робіш, пагардай людской
Асуджаны ты пажыццёва.
І можаш крычаць, колькі сілы стае,
Каму ты і чым неабходны...
Цана табе — грош, і не зменіш яе:
Цана гэта — водгук народны!

А водгук народны — прысуд усяму,
Што куплена толькі за грошы,
І нават няпэўнаму шчасцю твайму
На хісткім падмурку раскошы.
А што за жыццё, калі шчасця няма,
Сапраўднага шчасця людскога,
Якому не страшны былі ні турма,
Ні катаргі вечнай дарога!
З якім на зямлі, можа, радасней жыць
І самым няшчасным — калекам.
Ці можна яго на зямлі заслужыць
Таму, хто не стаў чалавекам?

***

Асеннія ветры, не хмарце,
Не засціце просінь імглою —
Рэвалюцыйныя маршы
Няхай прагучаць над зямлёю!
Не тупат прыглушаны коней
Па тракце, па лузе, па жыце —
Шаленства варожай пагоні
Вы, маршы, да нас данясіце.

Нашчадкі, мы ж ведаць хацелі,
Як, ветрам прадзьмуўшы планету,
Са свістам абломкі ляцелі
З падмуркаў замшэлага свету.
Але, як галлё на світанні,
Яны на агні не згарэлі,
А ў новым жыцці, нібы здані,
У цёмных закутках заселі.

І помсцілі ўладзе Саветаў
Употай — з варожасцю лютай,
І крокі патрульных пікетаў
На плошчах гучаць, як салюты...
Асеннія ветры, не хмарце,
Не засціце просінь імглою —
Рэвалюцыйныя маршы
Няхай прагучаць над зямлёю!

## ПОМНІК ПАРТЫЗАНСКАМУ ЛЕСУ

Зноў згадкі сэрцам завалодалі,
Калі над цішаю зямной,
Як золак, засвяціўшы зводдалі,
Сасновы бор устаў сцяной...
Пакуты краю беларускага,
Зямлі, як праўда, дарагой
Адчуеш кожнай тканкай мускула,
Крывінкай кожнаю сваёй.
А бор дыхне хваёвым водарам —
І адгукнуцца ў цішыні
Далёкім і трывожным водгуллем
Цяжкіх выпрабаванняў дні.
І здасца: час назад вяртаецца —
Мігціць маланкавым святлом,
І лес гамонкай напаўняецца,
І пахне дымам і жытлом.
Лес... Атуліўшыся туманамі,
Ён дах даваў, карміў, лячыў
І гінуў разам з партызанамі:
Ішоў у бой і на прарыў!
І нават светлы гай на ворага
Наводзіў неймаверны страх
Між поля, што ў чаканні ворыва
Хавала мсціўцаў у ярах.
І вось, да Мінска пад'язджаючы,
Абрыў убачыш, як праз дым,
І водбліскам зарніц удалечы
Сыр-бор засвеціцца на ім.
І богу молішся паганскаму,
Калі імчыць па ім віхор...
Як помнік лесу партызанскаму
Стаіць сасновы гэты бор.

## ДРЭВА ЖЫЦЦЯ

1

Зноў, як штогод, сваю лістоту
Страсае лес, страсае сад —
Скідаюць дрэвы пазалоту,
Калі жыццё ідзе на спад.

О, колькі золата на свеце!
Ці не з яго паходзіць зло?
Якое чорнае суквецце
Плады варожасці дало?

І стала бессмяротнай завязь,
З якой, нібы атрутны плод,
Пасля з'явілася нянавісць,
Каб загубіць людскі наш род.

Што стала яблыкам разладу?
Што стала стымулам жыцця?
Спакуса захапіць уладу?
Стаць богам ці бажком хацця?

За што ішла вайна вякамі
І людзі гінулі ў агні?
За права ўласнымі рукамі
Кідаць у блізкіх камяні?

Нам ратаваць патрэбна блізкіх,
А заадно — і цэлы свет.
І вывучаць па абелісках
Бацькоў і продкаў запавет.

2

Дрэва жыцця не лістотай маёвай —
Хвояй шуміць пад густой сінявой
І абнаўляе яе паступова
З кожнаю эрай, як з новай вясной.

Скіне нябачна ігліцу сухую,
Пусціць карэнне глыбей у зямлю
І, пераждыўшы хвіліну цяжкую,
З ветрам спявае: «Я волю люблю!»

Дрэва жыцця сваім шумам вясновым
Песню спявае наступнаму дню
І заклінае не роспачным словам —
Шумам трывожным
 жыццё ад агню.

Ён вырываецца з рук чалавечых:
Свет — у трывозе за дрэва жыцця...
Вось да якога —
 «Зямлю б не скалечыць!» —
Мы нечакана прыйшлі адкрыцця.

* * *

Чалавек да ўсяго прывыкае.
І не толькі да плачу ці смеху.
А чаго не хапае — шукае,
Сам шукае і смутак і ўцеху.

Чалавек прывыкае да працы:
Сее жыта, высочвае знічкі.
Прывыкае да спешкі, авацый,
І — кіруюць ім гэтыя звычкі.

Ён змагаецца з імі часамі,
А без іх касавурыцца хмура.
Вось чаму, разумееце самі,
Кажуць: звычка — другая натура.

Ён то ўдачу чакае, то свята.
То на час, то на лёс наракае.
Правініўся — глядзіць вінавата,
Нешта вынайшаў — славы чакае.

Нават вочы крадком апускае,
Як бярэ падарункі ў канверце...
Чалавек
да жыцця прывыкае,
І таму
яму цяжка памерці.

## ВЫПАДКОВАСЦЬ

*Памяці сябра*

А мы за ўтульным столікам кафэ
Не раз сядзелі з ім і жартавалі.
Па краі родным не ў адным купэ
І не з адной надзеяй вандравалі.
А мы за ўсё найлепшае ў жыцці
І з крыўдай, і з маною ваявалі.
Не знойдзенае марылі знайсці,
Па страчаным употай сумавалі.

Ішлі з бядой адзін да аднаго
І беглі з радасцю ці навіною.
Мы з ім жылі. І вось няма яго...
І больш не будзе на зямлі са мною.
Што думаў ён у свой апошні час?
З якой турботаю выходзіў з дому?
Ад гэтых думак закрычыш не раз,
І што з табой — не зразумець нікому.

Што гэта — выпадковасць або лёс?
Няўважлівасць свая, неасцярожнасць?
Мо перад лёсам — без жальбы і слёз —
І ўсім прызнаць сваю бездапаможнасць?
Жыццё — нішто! І нам пара забыць
Той час, калі гадалі на падковах:
Ці ж можа смерць невыпадковай быць,
Калі жыццё людское — выпадковасць?

Мой любы друг, нібы агеньчык, згас,
Як ветрам, выпадковасцю задзьмуты:
Ішоў кудысьці, як хадзіў не раз,

І ціха знік — без крыку і пакуты.
І не ўсвядоміў хоць на міг таго,
Што адбылося з ім. Якая сіла,
Як прывід, наляцела на яго
І з гэтым любым светам разлучыла?

Як на зямлю прыйшоў ён, так і знік,
Нібы заснуў і не прачнуўся ўранні.
Ніхто не чуў яго апошні крык —
Праклён ці просьбу, жах ці шкадаванне.
Ён развітацца нават не паспеў
З тым, што любіў ці не любіў на свеце.
І не даслухаў жаўрукoвы спеў
І шум вады вясновай на дасвецці.

Каб у канцы імгненнага жыцця
Не выглядаць такім безабаронным,
Хацеў бы ў прадчуванні верыць я,
Хацеў бы стаць хоць крыху забабонным.
Няўжо, як смерць напітак свой нальe,
Дае камусьці выпіць недарэчы?
Ні сон, ні прадчуванне не пашле,
Каб нам падрыхтавацца да сустрэчы?

Але хіба ад гэтага лягчэй?
Яшчэ цяжэй ад нечаканай страты.
Нястрымна слёзы коцяцца з вачэй,
Як бы і сам ты ў нечым вінаваты.
І нам няма ратунку ад журбы.
«Чаму? Нашто?» — мы толькі паўтараем.
І пад наплывам смутку і жальбы
Свой розум і развадлівасць губляем.

* * *

Адзін — святло пераймае,
Другі — і ў палёце дрэмле.
Выпадак — адных падымае,
Другіх — кідае ў падзем'е.

А там і копаць, і сажа:
Не ўбачыш неба палосу...
І, мабыць, ніхто не скажа,
Што сказана ў Кнізе лёсу.

Прадказваць долю людскую
Даецца ў свеце нямногім:
За прывілею такую
Патрэбна змагацца з богам.

А хто з ім будзе змагацца,
Не маючы сілы Антэя
(Хоць знае, што гэта — вар'яцтва),—
Той варты агню Праметэя!

Хто выклік багам кідае,
Не просячы сілы ні ў кога,
Магчыма, той прачытае
І Кнігу лёсу зямнога.

## РЭЛІГІЯ

Чалавека прыцягвала вечнасць,
І не меней, відаць, чым зямля.
Чалавечая смерць — недарэчнасць,
І ён выйсце шукаў спакваля.
І ў смузе існавання зямнога
Пра бяссмерце гадаў у журбе,
І нарэшце прыдумаў ён бога,
Ну а з богам і вечнасць сабе.

Іх саюз — на ўзаемным даверы.
На парозе свайго небыцця
Расчыняе ён райскія дзверы —
У жыццё за мяжою жыцця.
Гэта вера — пачатак мастацтва.
Дух і цела — нібы спарышы,
І няцяжка са светам расстацца,
Калі ёсць бессмяротнасць душы.

* * *

Душа людская... За яе
змаганне
Спрадвек вялі і неба і зямля —
І грэх і святасць.
Іх суіснаванне
І бог і чорт прызналі спакваля.

Нас замілоўвае і вабіць свет духоўны.
Ён — вечны, як жыццё і прыгажосць!
Нашто ж хаваем столькі ў ім грахоў мы?
Дык гэты ж свет
якраз душа і ёсць.

***

Нявечны і граніт,
што не гарыць у печах.
Глыбіні мора — не глыбіні для людзей...
Спрадвечны толькі свет
пачуццяў чалавечых,
Глыбокі толькі сум
няздзейсненых надзей.
Такая глыбіня падобна на дасведце.
Людское сэрца ў ёй не трэба разглядаць:
Усё, усё, што там
трымаецца ў сакрэце,
Нібы каменьчыкі на дне крыніц, відаць.

***

Як свеціць у прыцемку неба
Суквеццямі зорак сваіх!
І што яму — зорнаму — трэба,
Не знае ніхто ў гэты міг.

Па зорках шукаюць дарогу —
У моры, пустыні, тайзе.
Па іх прадчуваюць трывогу,
Што тоіцца ў сіняй смузе.

Але падарункі сусвету,
Спавітыя вечнай смугой,
Патрэбны не толькі паэту,
Што сочыць за небам з тугой.

З таго, процілеглага, боку,
Ад сонца, што толькі ўзышло,
Нібы перадачу, здалёку
Трансліруе месяц святло.

Ён выбраў найлепшую справу
З усіх, што на небе былі,
Сабе бессмяротную славу
Здабыўшы на службе Зямлі.

## АПОШНІЯ ДНІ

*У краіне светлай, дзе я ўміраю...*
*Максім Багдановіч*

Кіпарысы і пальмы,
Мора, горныя схілы...
Ах ты, золак світальны,
Як жа сэрцу ты мілы!
Ты займаешся недзе
За сыр-борам сасновым,
Што, як выліты з медзі,
Свеціць ранкам вясновым.

І зямлю ў аксаміты
Зноў вясна прыбірае.
Край, усімі забыты...
Ну, а ён... памірае.
Толькі бачыць нібыта
Бляск начной бліскавіцы,
Між узлескамі — жыта,
А на ўзлесках — суніцы.

Але раненька-рана
Ён там болей не будзе,
Бо крывавяць, як рана,
І баляць яго грудзі.
І, здаецца, ён чуе
На ўзбярэжжы паўднёвым,
Як зязюлька кукуе
Там у гаі маёвым.

Кукавала зязюля
Над магілай Максіма,

Што радзіма-матуля
Свайго страціла сына.
Ды шапталі «Не верце!»
Мора сінія хвалі,
І гадамі бяссмерця
Дні Максімавы сталі.

## ЗОРКА ВЕНЕРА

«Зорка Венера ўзышла над зямлёю...»
Як жа яна ўсхвалявала мяне!
Гэта мелодыя светлай тугою
Кожнае сэрца кране.
Смутак расстання — не толькі пакуты...
Нам гэту песню на тысячы год
Падаравалі паэт наш славуты
І беларускі народ.
«Зорка Венера» лунае над светам.
Гэта — каханню юнацкаму гімн!
Як не спяваць яго разам з паэтам,
Разам з народам сваім?
З гэтаю песняй я ўсюды жаданы:
Дзе б я ні быў на планеце зямной,
Мне адгукаюцца мерыдыяны,
Зачараваныя ёй.
І маладзік, што на небе начуе,
Шле ёй здалёку праменні свае.
Той, хто хоць раз гэту песню пачуе,
З ёй сваё сэрца салье.
Хіба ж не радасць, што песню такую,
Едучы ў госці, бяру я з сабой?
(Песню, з якой на самоце смуткую
Па Вераніцы сваёй.)
Гэткую песню, як свята, чакаюць...
Смутак расстання — калыска надзей.
З песняй на свеце людзей сустракаюць,
З песняй праводзяць людзей.
Вынесці песню з нядолі гаротнай
І паланіць ёю захад і ўсход
Мог толькі волат зямлі бессмяротнай,
Толькі вялікі народ.

## МАСТАЦТВА

І чароўнае, і няўлоўнае,
І звычайнае заадно,
Толькі з'явіцца — замілоўвае,
Заварожвае нас яно.
Вырывае душу з будзённасці,
Адрывае ад крыўд, няўдач,
Каб занесці ў свет задумёнасці,
Дзе яна ажыве як бач,
Дзе як радасць, дык радасць велічы
Незвычайнага адкрыцця,
Дзе магчыма жыць толькі верачы
І ў змаганне, і ў сэнс жыцця.

## ЭСТРАДНЫ МАТЫЎ

Скачуць музыкі, нібы парадысты.
Вухкаць пачаў кантрабас...
Хто безгалосы — ідзіце ў артысты:
Кліча эстрада вас.
Талент? Не трэба!
Дарэмна раскіс ты...
Шанец упусціш... Спяшай!
Будзе падтрымка? Давай у салісты —
Плакаць дурніц прымушай!

Хто безгалосы? Хто без'языкі?
Ёсць сацыяльны заказ.
«Э-э-э!» — На эстраду, заікі,
Зараз ваш выхад якраз.
Хто без ударнікаў прэ на эстраду?
Водсвет «юпітэраў» — зорны ваш час!
Дык пачынайце сваю клаунаду —
Тэхніка выручыць вас.

Кожны ўзмацняльнік —
і той з мікрафонам.
Сіплыя, хрыплыя, дрыгайце ў такт!
Як прымадонна ўзмахне балдахонам,
Дык не патрэбен антракт.
«Дайце рок-музыкі болей! Малю я!
Класіка? Не паважаю яе!..»
Джазу, аслы! Калі малпа малюе,
Хай віславухі па клавішах б'е!

Саксафаніст — ён сагнуўся, як хобат.
Глянеш — здаецца, па сцэне паўзе.
Следам — ударнік, не ўдарнік, а робат,

Толькі грымасы,
нібы ў шымпанзэ.
Хто з нас тхарыныя постаці лепіць?
«Не паважаю! Поп-арту прашу!»
Гэты поп-арт так аглушыць,
аслепіць,
Што рэзанатарам зробіць душу!

* * *

Складаны век, складаны час!
Загадкі хіміі, касметыкі...
Што вывучаць?
                    З чаго пачаць:
З касмічных з'яў ці з арыфметыкі?
Між іншым, можна і з дзяўчат,
Што будуць вечарамі
Спяваць, смяяцца і вішчаць,
А ты — не па праграме —
Сядзець і ў роздуме маўчаць —
Свае жаданні вывучаць.

Пакуль яны перад табою
Круціцца будуць на абцасіку,
Ты будзеш, пеступочы мрою,
Чытаць і перачытваць класіку.
З чагосьці ж трэба пачынаць...
Не позна і не рана.
Па чым раўняцца?
                    Па чынах
Ці па вачах каханай?
Па чым пра шчасце меркаваць,
Калі жыццёвы лёс каваць?

Час ад тугі па зорным космасе
Да больш складанага ісці:
Што нам зрабіць, каб злу і коснасці
Не патуралі мы ў жыцці?
Ад слоў пра мужнасць і пра подзвігі
Да спрэчак, як і што зрабіць,
Каб менш было на свеце подласці,
Каб праўду богам аб'явіць.

Усё, усё ў жыцці складана:
І мы — складаныя, і век.
Ды чым складаны чалавек?
Ён адчувальны, як мембрана,
Ці духам цвёрды, як алмаз?
Складаны век, складаны час.
Але ж памерці не складана —
Хутчэй наадварот якраз!

## ПАЛОМНІЦТВА Ў ПРЫРОДУ

Ужо, здавалася б, даволі
Усякіх прамысловых сцёкаў,
Што ў рэкі мёртвыя паволі
Цякуць ад вусця да вытокаў.
Даволі ядахімікатаў,
Якія, трапіўшы ў разоры,
Плывуць, каб толькі дождж закапаў,
У запаведныя азёры.
Даволі копаці і дыму...
У небе блякне водсвет зорны.
Ад прамысловага рэжыму
Стаў задыхацца край азёрны.

Ледзь зеляніна зашугала,
І ўжо на крылах ветраў вольных
Людскі натоўп, нібы навала,
Гуляе па лясах вакольных.
Спрадвечны дух перасялення
Стварыў паломніцтва ў прыроду?
Ці бог сушэння і салення
Падаў таемны знак народу?
Лясы гудзяць, смяюцца, плачуць,
Калі — якія дні цяжкія! —
Каб выхадныя лепш адзначыць,
Наедуць госці гарадскія.

І прывязуць на памяць лесу
Узоры тары прадуктовай,
Як дар тэхнічнага прагрэсу,—
Шкляной, бляшанай, папяровай.
Прагрэс прыносіць перамену,
І ў лесе пад імглой аблажнай

Мяшэчкі з поліэтылену
Павіслі над палянай кожнай.
Павіслі, як аэрастаты
Над гарадамі ў час трывожны,
І залацістых сосен шаты
Заносіць пылам рух дарожны.

А ёсць яшчэ народ — турысты,
Сябры вялікія прыроды
(Калі стварылі таварыствы —
Арганізоўвайце паходы!).
І, нібы на курорце родным,
Здароўе людзі папраўляюць
І перад вогнішчам паходным
Дары прыроды праслаўляюць.
А запаведныя палянкі
І баравыя азярыны
Ператвараюць у стаянкі
І пакідаюць, як руіны.

Але кідаць папрок турыстам
Няветла, нават негасцінна.
Паветрам дыхаючы чыстым,
Яны ўсміхаюцца нявінна.
А як увойдзе нешта ў моду,
Якія могуць быць дэбаты?
Таму ў набегах на прыроду,
Відаць, ніхто не вінаваты.
Вось толькі час хіба... Навокал
Ён засыпае след свой пылам.
На момант прамільгне ля вокан
І зноў грыміць за небасхілам!

## МАЛАЦЬБА

Хоць бы раз глытнуць вадзічкі!
Падаю ў салому...
Ах, як цяжка з непрывычкі
Працаваць самому!

Перакур... Ляжу. Дарэчы,
Прылягла і стома.
Ну а ўстанеш —
зноў на плечы
Кінецца, вядома.

А ў Людмілы
позірк мілы!
Лёгка рукі ўзніме,
Уваткне ў салому вілы —
І капу падыме.
А на сціpту падае —
Заглядзішся на яе!

А студэнцікі-вярзілы
Сэрца хоць пацешаць:
Схопяць стог —
хапае ж сілы! —
А падымуць вехаць.
Ды і той не данясуць —
Па дарозе растрасуць.

А камбайн ажно раве,
Калі возьме не пад сілу...
Задыхаешся ад пылу,
Шум і гул у галаве!

Але ж час і падымацца...
Абавязак мой!
Ах, як добра любавацца
Працаю чужой!
І як цяжка без прынукі
Працаваць самому:
Не бяруцца вілы ў рукі,
Каб насіць салому...

***

Хто што робіць — цяжка разабрацца.
Клопат нейкі ў кожнага штодня:
У кагосьці
і гульня — як праца,
А ў кагось
і праца — як гульня.
Ды гульня — занятак наш часовы,
Форма ранняй дзейнасці людской —
Не павінна стаць
гульнёй у словы
Ці любою іншаю гульнёй.
Пачынаць з гульні свой шлях жыццёвы,
Як відаць, наканавана ўсім.
Праца ж — элемент невыпадковы:
Мы жыццё ацэньваем па ім.

***

Што можа здарыцца — ніхто не ведае.
Чаму ты раптам стала мне другою?
І толькі пра цябе,
куды ні еду я,
Што ні раблю, я думаю з тугою.

Я памятаю, як цябе настойліва
Хтось выклікаў — знаёмы твой, магчыма.
«Чаго ён тут гадзінамі прастойвае,
Што просіць перад гэтымі дзвярыма?
А, да Алесі...» —
і сабе спакойна я
Не раз з усмешкаю праходзіў міма.

І ў нейкі міг — на шчасце ці бяду маю —
Ты стала мне таемнай і жаданай.
І толькі пра цябе адну і думаю
І, як у сне, гляджу замілавана.

У твой пакой пастукаюць — і нечага
Падскочыць сэрца, і ні дня, ні вечара
Няма спакою ад трывогі дрогкай.
Не раз уздрыгну толькі, як ад выбуху:
Мо да цябе? І я з пакоя выбегу.
Убачу — не, тады ўздыхну з палёгкай.

Калі з табой загаварыць адважуся,
Я задыхнуся ўраз ад хвалявання
І перавесці не магу дыханне,
Як перад крокам незвычайнай важнасці...

І, можа, гэта ўсё і ёсць каханне?

***

Я месяц ці болей нястомна запісваў
Любімыя рытмы каханай —
З любоўю, з якой не пісаў бы і пісьмаў
Са стэпаў сівых Казахстана.

Вясёлыя рытмы знаёмых мелодый
Эстрады і кінаэкрана,
Прыціхлыя, слухалі ўсе з асалодай —
І я, і сяброўкі каханай...

Яна ж прыгадала пад гукі гітары,
Што трэба памыць сёе-тое,
І выйшла з вясёлаю мінай на твары —
І з тазам пад пахай — з пакоя.

Вярнулася — гордая — праз паўгадзіны.
Паставіла тазік-разлучнік,
Паправіла ложак, а потым — гардзіны
І ў рукі ўзяла падручнік.

І так паглыбілася ў цёмныя нетры
Зачытаных тэкстаў і правіл,
Што, каб у пакоі ўсхадзіліся ветры,
І то не заўважыла б нават.

І тут я зрываюся ў бездань адчаю
І, кінуўшы нейкую фразу
Пра мудрасць спрадвечных навук, выключаю
І вальсы і твісты адразу.

І, нібы між іншым, так міла, ласкава
Каханая вочы ўзнімае:

«Вы можаце слухаць, калі вам цікава,
Мне музыка — не замінае...»

І ўсё?!. Ну, тады — на вакзал! На Камчатку!
Але не дайшло да вакзала...
Назаўтра,
                    крадком уздыхнуўшы спачатку:
«Чаго ты паедзеш?» — сказала.

***

Ледзь я ў палон няўдачам здаўся,
Як, па традыцыі зямной,
Вакол сабралася бяда ўся,
Што следам бегала за мной,
Не раз, не два ўгаворвала:
«Надзеі кінь свае!»
Але юнацтва гордае
Смяялася з яе!
Адчуўшы сіверу дыханне,
Завеі белыя мялі...
Я збудаваў палац кахання —
Найпрыгажэйшы на зямлі!
Пасля табе паспешліва,
Ледзь скончыўшы, аддаў:
Зірнула ты насмешліва —
І ён, як снег, растаў!
І лужынамі сінімі
Мігціць, як у імжу,
І пад яго руінамі
Я з ружамі ляжу.
І сцюжай дзьме туга адчайная —
Прапала праца незвычайная!
І, разгарачаная джазам,
Яшчэ мілейшая ўдвая,
З маёй бядой танцуе разам,
Гляджу, каханая мая...
Не знаю, па якой цане
Ты бедам прадаеш мяне,
Але — падумала ці не? —
Што, як устану нечакана я?
Ці будзеш танцаваць, каханая?

## СУПРАЦЬ ПЛЫНІ

У юнацтве —
                    што, бедным, рабіць? —
Мы, бывае, бунтуем, бунтуем...
Супраць плыні спрабуючы плыць,
Час у сведкі свае патрабуем.

А на ўсходжасць праверым пасля
Сінякрылыя лёгкія мроі,
І выходзіць — старая зямля:
Бунтавалі дарэмна, героі!
Бунтавалі, шумелі не раз,
Не згаджаліся на кампрамісы...
Зараз вопыт, вітаючы нас,
Пасміхаецца — як і не лысы!
Да каго ж за парадай ісці
Па жардзінцы наіўнасці крохкай,
Калі столькі дарог у жыцці,
А знайсці сваю сцежку нялёгка?

Ступіш крок — і ўгінаецца грунт.
І бушуюць жыццёвыя хвалі!
Што было...
                    Я ўсё роўна — за бунт!
Значыць, мы нездарма бунтавалі!

***

Нам гэты шлях жыццё наканавала,
Каб мы яго па-рознаму прайшлі.
Нам вопыт іншых — памагае мала:
Мы ўсе — першапраходцы на зямлі.

У пакалення кожнага, як мова,
І пошук мусіць быць, і адкрыццё.
У перайманні вопыту чужога,
На жаль, не зацікаўлена жыццё.

* * *

«Я пачынаю новую старонку...» —
Калісь я ў сшытку запісаў сваім.
І вось, нібы рабінавую гронку,
Што чырванее на галлі ў пазёмку,
Пасля знайшоў я запіс гэты ў ім.

Дык, значыць, новую? Што ж адбылося?
Адкуль прыйшла такая навізна,
Прытым якраз тады, калі ўляглося
І сціхла мрой юнацкіх шматгалоссе,
Перавярнуўшы мне душу да дна?

Не той напрамак? Ці не тая тэма?
Ці погляды змяніліся мае
І аксіёма стала тэарэмай,
Якую хтосьці — вечная праблема! —
Мне даказаць дагэтуль не дае?

Не, я не той, што быў раней, я знаю.
Я і ў лясах жыву, нібы між сцен,
І свой настрой, як лямпачку, мяняю,
Нібыта ўсё нанова пачынаю
Пад непазбежным знакам перамен.

Якую перайначу завядзёнку?
Каго ад страт ці бед засцерагу?
Дык, значыць, засвячу старую плёнку?
«Я пачынаю новую старонку...»
Як добра, што я так сказаць магу!



## *Альбом дзесяцікласніцы*

***

Мае дзяўчаткі чарнабровыя,
Я, прызнаюся, вас люблю.
Калі знайду такія словы я,
Як вашы позіркі вясновыя,
На цэлы свет вас расхвалю!
Вы ж, палюбіць жыццё гатовыя,
Шануйце родную зямлю.

Крадком у сне маім з'явіцеся
Так светла, як і жывяце.
І вас, калі вы мне прысніцеся,
Сустрэну я ў шаломе віцязя
З чырвонай ружай на шчыце.
Ды толькі ж вы не ганарыцеся,
Што мне на радасць жывяце.

***

Танга палёт жураўліны.
Гукаў трывожных парывы...
Зноў навявае ўспаміны
Позірк журботна-шчымлівы.

Хочаш спатканне прызначыць?
Не засмучай летуценніц.
Хто іх ілюзій не ўбачыць —
Роспачы іх не ацэніць.

Чуеш? Напеў развітальны...
Значыць, растануць туманы:
Выплывуць даўнія тайны,
Выкрыты будуць падманы.

Сталасць усё пераменіць.
Іншыя ўцехі адзначыць...
Хіба жыццё не ацэніць
Тое, што сталасць убачыць?

Танга палёт жураўліны.
Гукаў трывожных парывы...
Лепшай уцехі хвіліны,
Лепшых пачуццяў прылівы.

***

У пачатку жыццёвага мая,
Дзе не студзіць і дзе не пячэ,
Ты такая яшчэ маладая,
Ты такая дурніца яшчэ.

У цябе хоць адбаў весялосці...
Не, я гэта не стаўлю ў віну,
Але ранняй сваёй прыгажосці
Ты ўжо ведаеш, мабыць, цану...

Ты прыйшла нечакана з чаромхай,
Працягнула з усмешкаю мне
І сказала: «Бяры, не саромся...
І кажы: задаволен ці не?»

А сама на канапу прысела
І заклала нагу за нагу.
Ты здаешся бяспечнай і смелай,
Я таксама быць смелым магу.

«Ну, расказвай!»
А што мне расказваць?
Як табою любуюся я?
Не па сэрцы мне вельмі развязнасць,
Самаўпэўненасць гэта твая.

Я такіх не люблю, разумееш?
Ты на міг усхвалюеш мяне,
Ды твая бессаромная смеласць
Потым сэрца маё адштурхне.

## ПРЫХОДЗІЦЬ ДЗЕНЬ

Прыходзіць дзень, калі адна
Адкрые, як у снах чароўных,
Што прыгажуня тут — яна
І ёй няма навокал роўных.

Яна адзначана жыццём —
І не адказвае за ўчынкі...
Навокал толькі і чуцён
Пусты і звонкі смех дзяўчынкі...

Прыходзіць дзень, няўмольны ён —
Той самы дзень, калі другая
Упершыню, нібы праз сон,
Убачыць, хто яна такая!
І на жыццё — свой горкі лёс —
Глядзіць з рыданнем несуцешным.
І ўсё — праз боль і горыч слёз —
Ей на зямлі здаецца смешным.

А быў пуховы шарык мрой,
Паблісквалі ў вачах смяшынкі,
Ды ён, як адуванчык той,
Растраціў лёгкія пушынкі...
Прыходзіць з адкрыццём сваім
Той дзень, які ніхто не просіць:
Прыносіць радасць ён адным
І слёзы ён другім прыносіць.

* * *

Прыемна быць дзяўчынкай бесклапотнай
І сэрцам і гадамі маладой.
Прыемна позірк сустракаць пяшчотны,
Што, як прамень, блукае за табой.

Лавіць прыемна ўсмешкі неўпрыкметку,
І ўсім галоўкай весела ківаць,

І першае прызнанне, нібы кветку,
Жартуючы, з хлапечых губ сарваць.

Ды пачуццё, як і само прызнанне,
Каштуе больш, чым нават кветка-сон.
І ўсмешку, як манетку, на расстанне
Ты за яго не кінеш наўздагон.

Не срэбранік за гэта патрабуюць,
А залатнік прыхільнасці тваёй.
Не аддаеш — узяць сілком спрабуюць
І завалодаць ім любой цаной...

Прыемна быць дзяўчынкай бесклапотнай,
Але зусім нялёгка ёю быць.
Прыемна позірк сустракаць пяшчотны,
Ды трэба сэрцам за яго плаціць.

## ПЕРШЫЯ КРЫЎДЫ

Я хацеў патанцаваць з табой,
Ты мяне ўвесь вечар пазбягала.
Мо таму, што жартаваў я мала,—
Надакучыў рэўнасцю сваёй.
А з кім-небудзь кружачыся ў вальсе,
Ты ўвесь час здавалася чужой,
І твой смех, хавайся не хавайся,
Так і пырскаў на душу імжой.
Так ніколі ты не танцавала —
Ледзь не з кожным, толькі не са мной,

І не запрасіла, як бывала,
Ты мяне на вальс любімы свой.

І чаго ты выйшла з ім у сенцы?
Каб цябе ён мог пацалаваць?
Легкадумнасць гэту ў нейкім сэнсе
Можна зразумець і даравацць.
Ты была і ў іншых на прыкмеце
І не знала, што табе рабіць:
Як табе хадзіць на гэтым свеце
І каго ад радасці любіць!
Плакаў я ад крыўды і ад болю,
Даравацць хацеў, але не мог...
Так і разышліся мы з табою
І пайшлі, не бачачы дарог.

---

***

Вось і расталі цені мар юначых,
А мы з табою ж не маглі расстацца!
Ты памятаеш, як у сэрцах нашых
Пачаў агеньчык гэты разгарацца?
Мы ўвагай і пяшчотнасцю ўзаемнай
Яго падтрымлівалі штохвіліну,
Ды незнарок у той агонь таемны
Я слова абыякавае кінуў.
Ён стаў мігцець і гаснуць пастунова,
І ты, крадком заплакаўшы, сярдзіта
Падкінула ў яго таксама слова,
Адно, другое — як знарок нібыта.
І, як па змове,
з крыўдай недарэчнай
Мы пачалі на злосць адно другому
Тушыць яго — па прыкладу чужому —
Заміж таго, каб зберагчы навечна.

***

Яблынь белае веццe
Дастае да акна.
Як зямлю на дасвецці,
Будзіць мары вясна.

Вал паводкі буруннай
Прашумеў па зямлі,
І надзей маіх дзюны
Зелянець пачалі.
На пунсовыя макі
Зноў гадаюць лугі —
І трывогі ніякай,
І ні ценю тугі.

Пад сузор'ямі поўдня
Над вясновай тугой
Узыходзіць, як поўня,
Воблік любай маёй.
Сонца мая расквеціць
Уладанні свае,
І ў жыцці маім свеціць
Дзіўны позірк яе —
Той, што водсвет пакінуў
І ў душы не пагас.
І ў тумане ўспамінаў
Я блукаю не раз.

Ах, як хочацца часам
Стаць сабою самім
І застацца сам-насам
З хваляваннем сваім!
Гэты смутак — часовы,
Як і снег, што растаў.
Ды, як макі, пунсовы
Колер мрой маіх стаў.
Я б трымаў на дабро іх
У чырвоным куце...
Мак засеецца ў мроях
І да смерці цвіце.

## ІНЕЙ

Я кахаў цябе так нясмела,
Я кахаў цябе так няўмела...
Хіба ж кепска табе было?
Правадоў тэлеграфных лініі —
Памятаеш? — звісалі ў інеі,
І бялела ў палях быллё.

Ён свіціўся на кожнай яблыні
І на кожным суку, ствале...
Грэў тады я рукамі азяблымі —
Памятаеш? — рукі твае.

І за вёскаю,
                    на стаўках,
Па крыштальнай і звонкай сіні
Мы насіліся на каньках,
Мы свяціліся, нібы іней.

Мы не зналі, што значыць кволасць,
І ад бегу займала дух!
Мне быў любы твой смех і голас
І прывабны — твой кожны рух!

Ад канькоў звінела азерца,
Сыпаў белымі кветкамі снег,
І ва ўсе куткі майго сэрца
Залятаў твой зімовы смех.

Пяшчотным і чыстым, як іней,
Каханне маё было.
Таемным, як ноччу сіняй
Месячнае святло.

Не яно тугой неспадзеўнаю
Напаўняла маё пачуццё?
Але казку з красуняй-царэўнаю
Адабрала ў юнацтва жыццё.

Кожны раз, калі дрэвы ў інеі,—
У абмотцы снежнай
на дол
Са слупоў тэлеграфнай лініі
Правады звісаюць вакол.

Зноў, павеяўшы ветрам юнацтва,
Усплыве гэты светлы ўспамін,
Але некаму болей прызнацца,
Як тады, у каханні сваім.

Пяшчотным і чыстым, як іней,
Каханне маё было.
Таемным, як ноччу сіняй
Месячнае святло.

***

Каханне ў мяне было —
Як рэчанька, з берагам роўная.
І дрэва пяшчоты расло
Над ёй, як вярба чароўная.

Усё хвалявала яе:
І радасць і скруха раптоўная,

На бераг пачуцці свае
Выплёсквала рэчанька поўная.
Выплёсквала год і другі,
Шумела трывожнай часінаю,
Пакуль не ўвайшла ў берагі,
Не стала малой ручаінаю.

І хутка засохла зусім
З травой і вярбою зялёнаю,
Што вабіла ценем густым
І свежай бліскучаю кронаю.

Няўтульна на сэрцы цяпер:
У цішы там спіць абыякавасць,
Яе сцеражэ недавер —
І некаму страту аплакваць.

* * *

І сэрца ціхая знямога —
Як роўнядзь возера ляснога.

Як добра не кахаць нікога!
Ва ўсе канцы табе дарога.
Пачуццяў вечная трывога
Цябе не гоніць, як малога,
Да запаветнага парога,
Дзе ты не бачыш больш нічога,

Апроч аблічча дарагога...
Як добра не кахаць нікога!

І на душы пануе ціша.
Спакой пачуцці закалыша —
Як быццам неба стане вышай!
А дзе спакой — там прахалода.
У сэрца з розумам — лагода.
Учынкам — поўная свабода!
Каго б ні бачыў ці ні слухаў —
Свабода дзеянняў і рухаў...

Пакуль, як прывід-аблачынка,
Другая не мільгне дзяўчынка.

***

Усё, усё было дарэмна!
Я адчуваў, я прадчуваў...
Я твой прыход чакаў нядрэмна,
Але цябе не пазнаваў.
Я сябраваў не з-за карысці —
Я слухаў покліч пачуцця.
Я гэты голас чуў калісьці —
У непаўторны міг жыцця.
І — летуценны, нешанцоўны —
Жыў пад уражаннем яго.
І, нейкіх спадзяванняў поўны,
Чакаў прыходу я твайго.
І ты — прыйшла, крадком зірнула,
Кіўнуўшы светла галавой.
Абдаў лагодаю мінулай
Мяне тужлівы позірк твой.
Я запытаў: «Ты хто такая?»
Але адказу не было.
Я прашаптаў: «Ты, мусіць, тая,
Што абяцала мне святло?»
Я раўнаваў, чакаў спагады,
У нешта верыў, нешта сніў...
Я ценю рэўнасці быў рады,
Што бляск надзеі засланіў...
Было дарэмнае чаканне:
Мне твой прыход святла не даў —
На варце светлага кахання
Не стала б рэўнасць, як удаў.

* * *

Як бачыў цябе я —
Успыхвала ў сэрцы святло,
Не гасла надзея
І вечным каханне было!

І я любаваўся
Тваёю чароўнай хадой
І зноў забываўся,
Як цяжка было мне з табой.

А слухаў цябе я —
І дыхала сэрца імглой.
Згасала надзея,
Як сонца, знікаючы ў ёй.

Ні промня на твары!
У позірку бліскае сталь,
І срэбныя мары
Звіняць, як заморскі крышталь.

Жаданні? Імкненні?
За імі не ўсочыць мой зрок.
Парыў? Захапленне?
І ў сэрцы і ў позірку — змрок.

А вочы — глыбіні!
А шыя! А грудзі! А стан!
Пастава багіні,
Якіх маляваў Тыцыян!

***

Я душу сваю адкрыў табе,
Верачы вачам тваім, як цуду.
І чакаў адказу, як прысуду,
Падуладны іхняй варажбе.

Думаў — голас твой сусвет кране.
Ты ж сказала: «Пры адной умове...»
Тым не менш лаўлю цябе на слове,
А пра ўмову нагадаеш мне.

Ты маю не ўбачыла душу,
Як за хмарамі — мігценне неба.
Ну і што ж? Не ўбачыла — не трэба!
Я ж не літасці ў цябе прашу.

***

Засвяціліся ў прыцемку ясныя вочы
І, напоўніўшы сэрца журбой,
Замігцелі здалёк, як агеньчык уночы,
І кудысь павялі за сабой.

Ды журба мае думкі і мары скавала,
І не ведаў я — быў у тумане прасцяг,—
Гэта толькі зязюлька ў бары кукавала
Ці, трапечучы, стукала сэрца ў грудзях...

І тады як знарок тваe чорныя бровы,
Узляцеўшы, мільгнулі, як цень, над зямлёй,
І, здалося, залопалі крыламі совы
Над маёй галавой.

І пачуў я, уздрыгнуўшы, як ты сказала...
Голас твой прагучаў,
як пчаліны рой.
Твае словы ўпіліся мне ў сэрца, як джала.
Вось яны:
«А чаго ты ідзеш за мной?»

***

У крыўдах, хлусні, нагаворах
Я сам разабрацца не ўмеў
І толькі пасля зразумеў,
Што ты — самы люты мой вораг.

Гуляла з каханнем маім,
І веру ў жыццё мне разбіла,
І ў сэрцы, што дыхала ім,
Пажару крадком нарабіла.

І як мне тут жыць? Чым далей,
Не большае веры і сілы...
Ды раптам глядзець весялей
Пачаў я на свет гэты мілы,

Калі ты пайшла назусім,
Што скардзіцца, плакаць па часе?

Ты, можа, і з некім другім
Не лепш, як са мной, абышлася?

Калі ж ты — быў горкі той міг —
Пакінула боль мне і стому,
Няўжо на руінах маіх
Палац пабудуеш другому?

***

Мільгнула ты, як метэор,
Не ўспыхнуўшы зарой,
І закруціла, як віхор,
Маіх пачуццяў рой.
І доўга, з грукатам грымот,
Шумела нада мной,
Калі стаяла ля варот
Навалаю начной.

Ты засланіла ад мяне
Вясновы далягляд,
І барабаніў па акне
То дождж, то снег, то град.

Ты ўсё, чым дыхала зямля
І чым яна жыла,
Пабіла градам, а пасля
Спаліла ўшчэнт са зла —
Спаліла ўсё, як сухавей,
У цемені начы
І зноў кудысь пайшла хутчэй,
Надзею несучы.

***

Памятаеш, мяне прыхапіў
Дождж, раптоўны, прыемны...
Ах, як сэрца тады асляпіў
Мне твой воблік таемны!
Я прамок — з галавы і да ног —
У нейлоначчы белай
І ступіць да цябе на парог
Так не мог, зразумела...

Сонца зноў паплыло над зямлёй,
І гуляў я па скверы.
Але вось ва ўстанове тваёй
Расчыніліся дзверы.
Хоць бы кінула слова, ці што...
І не глянула ў бок мой,
Быццам быў для цябе, як ніхто,
Я варонаю змоклай.

Я прамок, але ў сэрцы маім
Зіхацела вясёлка!
Ты мяне не сустрэла — і ў ім
Стала хмура і золка...
Зноў сухое адзенне было —
Сонца ім занялося!
Сэрцу ж іншае трэба святло,
А яго не знайшлося...

***

Калі глядзеўся, нездагадлівы,
Я ў сіняву тваіх вачэй,
Яны азёрамі прывабнымі
Сінелі між чароту вей.
Была і раніца з блакіту ўся,
Калі зірнуць на іх прыйшоў,
І не заўважыў, як заблытаўся
Пад сеткай русых валасоў.
Мяне на бераг ты выцягвала —
Быў паслухмяны, як дэльфін.
А сэрца так пяшчоты прагнула,
Што завалодала ты ім.
Бег да цябе
зялёнай сцежкаю,
А ты — валун пад галаву!
«Жыві!» — сказала мне з усмешкаю.
І я з усмешкаю жыву:
Ці спаць іду, ці прачынаюся,
Калі ўсміхаюся — лягчэй,
Нібыта ўсмешкай засланяюся
Ад сінявы тваіх вачэй.

***

Ты прыйшла з краіны мары,
Дзе прыбой надзеі б'е
І ставок пад звон гітары
Спіць у месячным святле.

І таму я жыў табою,
І няўлоўны вобраз твой
Напаўняў мяне журбою
І трывогай веснавой.

Але ты была зямная
І не толькі са святла:
Як і цёплым ветрам мая,
Дыхаць холадам магла.
І капрызнічаць умела:
Стукнуць-бразнуць і... пайсці!
Як і ўсе, не разумела
Шмат чаго ў сваім жыцці.

Ды, як музыку, цябе я
Да світання слухаць мог.
Як апошняя надзея,
Ты ступіла на парог.
Пырснуў недзе дождж з хмары,
Прашумеўшы ў збажыне...
Ты прыйшла з краіны мары,
Ды прыйшла не да мяне.

***

Мне прыемны ўспамін пра цябе.
Навявае ён светлыя мары...
Я не веру гарачай кляцьбе —
Веру радасці, нават журбе,
Што мільгне непрыкметна на твары.

Радасць — водбліск пакіне на ім
Ад міжвольнай уцехі спаткання.
Мы хвіліну адну прастаім.
Пры расстанні на твары тваім
Блісне смутак слязой развітання.

А ў мяне застанецца ўспамін,
І хвіліна размовы з табою
Ператворыцца ў момант адзін
У бясконцае мноства хвілін,
Перапоўненых светлай журбою.

---

***

Між нашымі сэрцамі — ноч,
Амаль беспрасветная цемень,
Як быццам мы звязаны ценем,
Між нашымі сэрцамі — ноч.

Між нашымі сэрцамі — ноч?
А ёсць беспрасветнасць начная?
Не кожны свой шлях пачынае
Адтуль,
дзе спрадвечная ноч?

Ды ночы спрадвечнай няма!
Няма беспрасветнасці ў свеце:
Дзе прыцемак —
там і дасвецце,
А ночы спрадвечнай няма.

Між сэрцамі — ноч,
і таму
З табой мы не ведаем страху?
Дык пойдзем па Млечнаму Шляху
Насустрач адно аднаму!

***

И северное сиянье —
Не наше ли это слиянье?
*Я. Еўтушэнка*

Мы жыць паасобку не можам,
Як радасць са смуткам людскім.
Мы разам сусвет патрывожым,
Навалай бушуючы ў ім.
Выток электрычных зарадаў —
У нашых руках, я гляджу.
І лепшых не знойдзеш абрадаў,
Чым гром і маланка ў дажджу.
А дождж без маланак і грому
Не тое, што лівень начны —
Грымотны, кіпучы,
якому
Працяг адгукнецца зямны.
Як толькі ты — плюс, я — мінус.
Наш голас — грукат грымот.
У час навальніцы хлынуць —
Зямлю абыдзе няўрод...
З табой мы сустрэч пазбягаем —
Ніхто нам не кіне дакор,
Ды хмару, што стане над гаем,
Разгоніць умомант віхор.
І парная млявасць спякоты
Не дасць у цяньку адпачыць.
Крыніца цурчыць на паўноты —
Жыццё на паўсілы гучыць...
Як толькі ты — плюс, я — мінус.
Калі ты — мінус, я — плюс!
І з намі — жыццю не згінуць...
Дык слаўся ты, наш саюз!

* * *

Ёсць дзяўчаты — жывуць на вяршыні
Недаступнай гардыні сваёй.
Што ж рабіць непрыгожай дзяўчыне
З непадкупнай і чыстай душой?!.

Ты, каханая,— з гордых таксама ж,
Нават жартам не скажаш, відаць:
«Калі ласка, вазьмі мяне замуж...
Мо не будзеш пасля шкадаваць...»

Хай на момант успыхнулі б шчокі,
Ды сказала б — і, думаю я,
Ты ўзнялася б вышэй, чым аблокі,
Дзе пакутуе гардасць твая.

* * *

Ты ўся як ноч марозная
Ці казка з мар і сноў!
Зірнеш — такая грозная,—
Я не звяжу двух слоў!

Ты стала б ценем вернасці
І посьбітам журбы.
Табе б крыху манернасці
З адзнакай варажбы.

А да тваёй стрыманасці,
Ці як тут лепш сказаць,

Жаночай апантанасці
Не шкодзіла б дадаць!

А з ценяў цемень звяжацца —
І смутку не схаваць...
Ну хто, скажы, адважыцца
Цябе пацалаваць?

## СПРОБА ЗРАБІЦЬ ПРЫЕМНАЕ

Я хацеў табе прыемнае зрабіць
І памыў талеркі.
А каб мне было прыемней мыць,
Еў твае цукеркі.

Спадзяваўся як-ніяк на «дзякуй» я,
Ну, на пацалунак, можа.
Ды была надзея марная мая!
Я пачуў: «О божа!
Ты навошта посуд мыў, скажы?
(Мо і так кагосьці хваляць?)
І, напэўна, навастрыў нажы,
Бо парэзала я палец.
А чаму нічога ты не еў?
Хочаш, каб стаяла, падавала?
Я табе не буду — зразумеў? —
Домработніцай!..» — сказала.

Каб табе, выходзіць, дагадзіць —
Трэба толькі есці...
Як тут не ўздыхаць і не тужыць
Па такой нявесце?!.

Пацалунак я не атрымаў,
Пахвалы таксама.
Горкіх слёз ад крыўды не стрымаў
І заплакаў: «Мама!»

## ПРЫЗНАННЕ СУЧАСНАЙ ВАКХАНКІ

Ну згадзіся, нашто нам мінулае?
Захацеў паблукаць у журбе?
Не кажы, што цябе падманула я:
Я зусім не кахаю цябе.
Хіба зменяцца нашы адносіны
Ад таго, што было ў нас раней?
Пра вясну не пытаюць у восені:
Здагадайся і так зразумей.
Ты не той, у каго закахалася
Я ў семнаццаць сваіх па вясне,
І не той, на каго спадзявалася —
Мне ўсё роўна, ты прыйдзеш ці не.
І няма ў маіх словах шматзначнасці.
І ва ўчынках таксама, бадай.
Не чакай асаблівай удзячнасці
І, кахаю ці не, не гадай.
Пад заслонаю неба імглістага
Свецяць зоркі ці не — не відаць.
Гэта тая спрадвечная ісціна,
Пра якую не трэба гадаць.

***

Жанчына, яшчэ маладая,
Пакутуе з дзіцем адна.
І, што ні кажы, выглядае
Зусім не мадоннай яна.

У спешцы жыцця мітуслівай
Няздзейсненых сноў не забыць.
Ці можна здавацца шчаслівай
І любай нікому не быць?

Калі ёй захочацца нават
Камусьці жыццё прысвяціць,
Ці пойдзе ў газету з аб'явай
І здымак папросіць змясціць?

Як смутак яе выпадкова
Да сэрца твайго даляцеў,
Скажы ёй адзінае слова —
І ўсё будзеш мець, што хацеў.

***

Трымае матуля дзіцё на руках —
Дачушку ці першынца-сына,
І радасць, што ззяе ў жаночых вачах,
Асвеціць паўсвету, магчыма.
Яна пахавала надзеі свае:
Не ходзіць чароўнай хадою.

І нельга назваць як жанчыну яе
Ні мілаю, ні маладою.
Затое як маці — красуня яна,
Мадонна сама, мона Літа,
Якая павінна глядзець з палатна
На ўсіх, як багіня нібыта.
Між тым ёй патрэбна на лёс наракаць,
Што зоркай міргае далёкай...
Жанчына стамілася шчасця шукаць,
І трэба ёй быць адзінокай.
І, божа, як лёгка абразіць яе!
І гэту малечу таксама.
А ён працягнуў ручанияткі свае,
Вось-вось заўсміхаецца: «Мама».
Ён хоча на волю, ён просіцца з рук!
Ці ж толькі яна вінавата,
Што, можа, ніколі нікому хлапчук
Сказаць не асмеліцца: «Тата!»
«Не, не, вінаватая толькі яна!» —
Размахвае нехта рукамі,
Па самым святым — мацярынстве —
здаўна
Прывыкшы таптацца нагамі.

* * *

Шэпчуцца цёмныя цені,
Як гледачы між сабою...
Мы і ў жыцці, як на сцэне,
Нешта іграем з табою.
Хіляцца вербы панікла,
Змрок ачапіў загуменне...

І пакладу табе звыкла
Я галаву на калені.
Белы туман у нізіне
Прывідам замка мільгае.
Перш чым ён раніцай згіне,
Мы адпачнём, дарагая.
Значыць, сыходзім са сцэны?
Трэба развітвацца, мабыць.
Гэты палац беласценны
Нас, як раней, не завабіць.
Шчасце —
не райская птушка
За веснавым небасхілам.
Рай на зямлі —
не падушка
На сенавале настылым.
Знаем, дзе папараць-кветку
Можна знайсці нечакана,
Ды адцвіла неўпрыкметку
Папараць-кветка на Яна.

## ЯК МУЖЧЫНА — АДЗІНОКІ

**На матыў Генадзя Бураўкіна**

Не жанаты — не чалавек.
*Платон*

Як мужчына — адзінокі,
Ён — дурны абавязкова.
Нібы дрэва, аднабокі,
Што расце ў глушы яловай.

Ён — бяспраўны, ён — бязмоўны,
Недарэка і няўмека,
Неглыбокі і няпоўны —
Палавіна чалавека...

Колькі Ясяў і Мальвінак
Разам злучана нібыта.
Колькі гэтых палавінак
Белай ніткай ледзьве сшыта!

Колькі цел і душ халодных
Шэры прыцемак збліжае,
Колькі жыццяў чужародных
Нітка белая сшывае!

Ды свой лёс, пагаласіўшы,
Ты пры жонцы разумееш:
Моцна цуглі закусіўшы,
Быць адданым ёй умееш.

***

Танцуе жанчына з мужчынам,
І танец іх — выклік, лічы, нам.
Парывістасць сэрцаў — у руху,
Што можа падняць завіруху,
Пяшчотнасць — у жэстах, ва ўсмешцы,
У позе, паставе і ў спешцы,
З якой яна кружыцца лёгка,
То раптам прытуліцца дрогка,
То кінецца прэч ад партнёра,
Каб з іншымі збегчы за мора...

А ён — у вачах захапленне,
Якое не згасіць зацьменне
Надзеі, што позна ці рана
Пакіне яго нечакана.
Ён зробіць усё, што мажліва:
Не будзе яна нешчаслівай!

Яна ж — як сама закаханасць!
Усё выдае ў ёй адданасць:
І твар, ад уцехі пунсовы,
І выгляд вачэй двухсэнсовы...

Танцуе з мужчынам жанчына —
Іх рухаў спыніць немагчыма!
Як сонца вясновага ззянне,
Не спыніцца танец кахання!

---

***

О, як вабяць твае вусны,
Пунсавеючы,
як мак!
Выгляд іх такі спакусны,
Холад твой такі пакутны —
Не падступішся ніяк.

Для каго ты беражэш іх,
Ты хоць ведаеш сама?
Я ж сказаў,
што прыгажэйшых
За цябе нідзе няма.

Разумнейшай мне не трэба,
А другой няма такой!
Ты са мной —
сінее неба
І за шэраю імглой...

Угаворваў бы я меней,
Ды з другой лягчэй, відаць,
Цёмнай ночкаю асенняй
Закапацца можна ў сене,
Чым цябе пацалаваць!

* * *

Да цябе мае думкі ляцяць,
Толькі я не магу іх суняць:
Я ў палоне — у думак сваіх.
Як і чым ты прывабіла іх?
Я на гэта пытанне якраз,
Як і ўсе, не знаходжу адказ.
Адрачыся ад іх?
Не магу!
Я да іх на агеньчык бягу,
Дзе сяджу і пакутна маўчу:
Твая ўсмешка стаіць уваччу.
Можа, гэта не ўсмешка твая,
А прамень пасярод ручая
Ці вясёлка ў струменях дажджу?

Дык хіба ж на цябе я гляджу?

## МАЛІТВА ПЕРАД СНОМ

Каб не адкрыў табе
Я гэту таямніцу,
Што я рабіў бы з ёй?

Ты — з німбам на ілбе —
Зноў села ў калясніцу
Фантазіі маёй.

Ці верыш ты, што я,
Калі цябе не ўбачу,
Смяяцца не хачу?

Мне прыгажосць твая
З усмешкай у прыдачу —
Як золак уваччу.

Скажы, што мне рабіць,
Калі згублю ў тумане
Блакіт тваіх вачэй?

З табою паўтарыць
Хачу сваё спатканне...
Прысніся ж мне хутчэй!

***

Не зайздросць пустому хараству,
Не духоўнай — знешняй прыгажосці.
Ну і што, калі ў бяссіллі хтосьці
Перад ім схіляе галаву?

Што бліщчыць ці нават зіхаціць —
Хутка ўбачаць, стопчуць і заплямяць...
Хіба снег, падказвае мне памяць,
Так асляпіць нас, як паляжыць?

***

Не баюся папрокаў, кляцьбы,
Невыказнай трывогі і болю.
Не мінуць ні жальбы, ні журбы,
Калі страціш і розум, і волю.

І калі я баюся чаго,
Дык не смутку ў хвіліну расстання:
Толькі сум развітання твайго
Абяцае мне ўцеху спаткання.

***

Усё павінна быць
Прыгожым у жыцці,
Але жыццё пражыць —
Не поле перайсці.
Трывожна над зямлёй,
Стамлёнай ад маны,
Калі стаіць над ёй,
Як хмара, здань вайны.

І раніцай і ўдзень,
Кладуся ці ўстаю,
Яна кідае цень
І на душу маю.
Мы хочам жыць з табой,
І я святла прашу,

А гэты цень — журбой
Агортвае душу.

А што, як сыдзе змрок
І давядзецца ў ім
Амаль за кожны крок
Плаціць жыццём сваім?
Як вы пражывяцё
Такую крутаверць?
Ці можна, як жыццё,
Зрабіць прыгожай смерць?

***

Хачу я ў тваіх вачах —
У кожнай слязе скупой —
Убачыць адбітак свой.

Які б мне ні выпаў шлях —
Не кіну я ў чорны дзень
На сэрца тваё свой цень.

І раптам адбітак мой
У рэчцы мільгнуў лясной,
А можа, не мой — сасны?

Ды ледзь адступіў я ўбок,
Як ценю майго шматок
Упаў на пясок рачны.

Здагадка — прамень святла —
Па сэрцы маім прайшла,
Нібы вастрыё ляза:

Я мог бы ў вачах тваіх
Адбіцца, каб толькі ў іх
Мільгнула крадком сляза.

***

Мне добра з табою, як мы размаўляем,
І добра, калі мы ў трывозе маўчым.
Мне добра з табой, як любуемся маем,
Што пахне травою духмянай з лагчын.

Мне добра з табой, калі золкаю ноччу
Стаім, дрыжучы, мы пад лёгкім плашчом.
Калі ж без цябе летнім прыцемкам крочу,
Мне зябка, нібыта стаю пад дажджом.

Мне добра з табой і вясёлай і сумнай,
Ці ноч надыходзіць, ці сонца ўстае.
Як ты на расстанне крыху легкадумна
Хінешся, шукаючы губы мае.

Мне добра, як мы пачынаем сварыцца,
А лепей яшчэ, як мірыцца пачнём.
Мне добра з табой... Ты, відаць, чараўніца.
Дык ёй і застанься, прыйшоўшы ў мой дом.

* * *

Ты не прывабнай паставай
Зачаравала мяне.
Мо і не гэткая нават
Ты, як з’яўлялася ў сне.
Не разглядаў, нібы цацку,
І не наймаў я сватоў,
А закахаўся знянацку —
Так, як у дваццаць гадоў.

Сэрца, як некалі, б’ецца,
Некуды знік недавер.
Сутнасць кахання, здаецца,
Я разумею цяпер.
Да летуценняў вясновых
Радасна ў госці бягу.
Сутнасць кахання — у словах:
Я без цябе не магу!

Цешуся я ці бядую —
Не паддаюся жальбе.
Як на цябе ні крыўдую,
А не магу без цябе!
Будзе са мною твой вобраз —
Хутка развею тугу.
Еду ў раён або вобласць —
Тыдзень прабыць не магу.

Як ты мяне сустракала!
Кожны той міг берагу.
Ты як паветра мне стала —
Жыць без цябе не магу!

Дыхаю толькі з ахвотай
Гэтым паветрам адным,
Нібы ўдыхаю я ўпотай
Сілу жыццёвую з ім.

* * *

Сняцца белыя аблокі
Ветру веснавому.
Сто шляхоў — у свет шырокі
І адзін — дадому.
Сто шляхоў за небасхілам
Мне падараць стому,
Каб прывёз я разам з пылам
Успамін дадому.
Падарылі мне гасцінцы
Светлыя ўспаміны,
А табе — на павуцінцы
Ягады рабіны:
Мабыць, лепшыя каралі
Бабінага лета...
Як мяне б ні дакаралі
Сны твае за гэта,
Ды са слодыччу табе я
Аддаю і горыч.
— Ну а радасць,— ты з надзеяй
Глянула,— падорыш?
Радасць горкай і салодкай
Будзе, зразумела,
Каб і хвіляю кароткай
Даражыць ты ўмела!

***

Ты — мой радасны спеў
І журботны напеў,
Той, які я даслухаць яшчэ не паспеў,
І да гэтай мелодыі слыннай
Падбіраю я словы свае нараспеў,
Паўтараючы іх безупынна.

Я да ўцехі тваёй,
Не прызначанай мне,
Нібы ўзяў без дазволу твой здымак,
Падбіраю матыў на самотнай струне,
Як герой, што прайграў паядынак.

А калі да няўлоўнага смутку твайго
Я шукаю мелодыю ўцехі,
Я да рыцара, мабыць, падобны таго,
Што бярэцца за меч і даспехі.





***

Дарога дадому — тая ж.
Лепшая, можа, з усіх:
Ідзеш —
і нібы гартаеш
Летапіс згадак сваіх.
То ўскрык пачуеш,
то вокліч
На вечнай мове лісця:
Тут з кожным дрэвам уполлеч
Ішоў ты сцежкай жыцця.

І радасць у сэрцы — тая ж,
Калі ты чуеш вакол:
«Здароў! Ну як, памятаеш,
Які тут быў частакол?
І ты ледзь-ледзь праціскаўся
Між нашых тонкіх камлёў,
Шчакой да іх прыціскаўся,
Калі высочваў чмялёў...»

Усюды, куды ні глянеш,
Убачыш сляды свае.
Хоць памяць аб іх параніш,
А сэрца святлом зальe...
А там — вось і Нёман злева —
Прайграць немагчыма бой,
Дзе ўмомант кожнае дрэва
Заслоніць цябе сабой.

* * *

Будзе дождж — гусцеюць хмары...
Стомлены, спацелы,
Падыходжу да кашары
Праз бярэзнік белы.
— Не пазнаў я вас, дзяўчаты,—
Будзеце багаты!
— Мы — таксама. Быў дзе-небудзь?
(Быў? Нібы не знаюць...)
Малако з даёнак цэдзяць
І пераліваюць.
А даўно яны, падлеткі,
Тут збіралі кветкі?

Не над сінімі марамі
Зоркі засвяцілі,
На якія вечарамі
Мы глядзець любілі.
Не на горным перавале,
Значыць, сцежкі тыя,
На якія наплывалі
Туманы густыя.

— Тут у вас на ўсё выгода,
Цень і прахалода...
— І гаі, і лугавіны...
Ты частуйся... Просім!
Не перабяром маліны —
Усё лета носім.
Ты, відаць, за кнігай ягад
І не бачыў нават.
Дык расказвай, як сталіца,
Як здаваў, хваліся!

— Мае мары не збыліся,
Але могуць збыцца...
— Дык не траць тады надзею —
Збудуцца ў нядзелю!

І пайшлі туды паволі,
Дзе стаялі статкі.
І падумаў я міжволі:
«Мілыя дзяўчаткі!
Не за сінімі марамі
Зоркі засвяцілі,
На якія вечарамі
Мы глядзець любілі.
Не на горным перавале,
Значыць, сцежкі тыя,
На якія наплывалі
Туманы густыя...»

* * *

Я прыехаў у вёску родную,
Дзе я жыў і не быў даўно,
І згадаў там зіму халодную
І старое як свет гумно
(Цэлай вёскай у ім збіраліся,
Як прывозілі нам кіно),
І са мной дзяўчаткі віталіся,
Як знаёмыя ўсё адно.
Непасрэдныя, сарамлівыя,
Нечым любыя мне здаўна,
Па-дзіцячы яшчэ шумлівыя,
Як маёвая збажына.

Вочы сінія, бровы чорныя
І аўсяныя валасы,
Як і ўсмешкі іх непаўторныя,
Незвычайнай былі красы.
— Што за позіркі васільковыя?
Не магу пазнаць...
— Пазнавай!

Ах, красуні мае вясковыя,
Вы як родныя мне, бадай!
І ве сум — кроплі нейкай горычы
Прасачыліся ў мой настрой,
А дзяўчаткі, мне ўсмешкі дорачы,
Ціха шэпчуцца між сабой.

***

Калі спадзе гарачыня,
Забуду ўмомант: хто я, дзе я...
I гэты міг на схіле дня
Мяне хвалюе, як надзея.
Ці як нябачны ў тумане
Таемны горад з вечным гулам.
Усё наперадзе ў мяне,
Амаль нічога — у мінулым.
I за туманам не відаць
Той смутны час, калі я буду
Апошні дзень свой дажываць,
Жыццю не верачы, як цуду.

А ён настане... гэты дзень,
Прыйшоўшы звыклаю хадою,
I скажа смерць: «Пара, хадзем!» —
I моўчкі я пайду за ёю.
Я толькі ўспомню, што хацеў
Яшчэ хоць раз пабачыць іней...
Ён у ваколлі зіхацеў,
Нібыта ў казачнай краіне.
Мільгне на росным лузе след,
На небе — сілуэт таполі,
I я пакіну гэты свет,
Каб не вярнуцца больш ніколі...

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ МАМЫ

Я забыў пра дзень нараджэння мамы,
А яна віншавання чакала,
Але ні паштоўкі, ні тэлеграмы
Так і не атрымала.
Да ранку не спала і ўсё ўспамінала
Жыццё і бяду, што — адна за другою —
Над самотным парогам яе кружыняла
Часінай ліхою.
І за доўгую ноч не раз прыгадала
І вайну, і дзявоцтва сваё, і тое,
Як мяне — пад кулямі — гадавала...
Хіба забудзеш такое?

І толькі на трэці дзень
я ўспомніў пра гэта —
Пра дзень нараджэння мамы.
Кінуў усё, адпрасіўся на працы
І паехаў дадому — як цень, журботны...

Расчыняю дзверы, заходжу,
А яна з усмешкаю кажа:
— Прыехаў? Я знала, што ты прыедзеш:
Ты сніўся мне запар тры ночы.
Распранайся хутчэй — і за стол адразу:
Я вячэру табе згатавала.

* * *

Вёска... Ясельда... Прадвесне.
Ціхі вечар, гул вясновы...
Льецца рэчанькаю песня,
І цурчаць, як хвалі, словы.

Толькі лёд надзьмуты трэсне,
Рэкі так і заспявалі...
Льецца рэчанька, як песня,—
І гучаць, як словы, хвалі.

***

Вось і зноў я хутка буду дома.
Выйду ў сад, як некалі... хаця
Перш за ўсё раскажаш ты, вядома,
Пра навіны сельскага жыцця.

А назаўтра рана, ледзь разднее,
І мяне закруціць мітусня.
Зноў зганю ахвоту на касьбе я,
Асабліва — на пачатку дня.

А вярнуся, стомлены, дахаты
І пачну расказваць, як мяне
Цэлы дзень распытвалі дзяўчаты
Пра жыццё ў палескай старане.

І спытаеш ты абавязкова:
Ну а што я думаю пра іх?
І, відаць, сама замовіш слова,
За адну замовіш ці за ўсіх...

Толькі мы размову, дарагая,
Скончым тым, што вытраш ты слязу.
Я скажу: «Не гэта і не тая —
Я табе з Палесся прывязу!»

* * *

Мне не трэба ў поле запрашэння,
Як пачнецца за лясною зонай
Збажыны зялёнай калашэнне,
Збажыны зялёнай...
Не забыў жаўрук сваё мастацтва —
Льюцца з неба песні адгалоскі.
Ды ў яго ніяк не дапытацца,
Як прайсці да вёскі.
І звініць званок яго вячысты
Так, што плакаць хочацца ад шчасця,
І бярэзнік зелянее — чысты,
Як пасля прычасця.
Прычасціўся ён дажджом вясновым —
І з маланкай яркаю, і з громам —
І трымціць увесь ва ўборы новым,
Белы — у зялёным.
Гэты ўбор купіў ён за бясцэнак
І заліўся, як у дождж — азонам,
Пералеску белы пяцісценак
Светлым переразвонам...
Не паспеў я ў полі абрасіцца,
Як растала ў раннім небе хмарка.
І пшаніца-ярка каласіцца...
І пшаніца-ярка.

* * *

Схіліўшыся, стаіць над збажынаю
Пшанічны колас, буйны, залаты.
Падыдзеш і кранеш знарок рукою,
А ён — зусім пусты.

Тады адкуль была ў мяне надзея,
Што колас не з'яўляецца пустым,
Што ён пасля, ад часу, апусцее,
Як пераспее зерне ў ім.

Як потым апусцее гэта поле,
І тлумны свет, і сэрца спакваля...
І мусіць нешта загубіць міжволі
Сваёю шчодрасцю зямля.

***

Мы спружынуем, барануем
Сваю карміцельку-зямлю,
У вечным клопаце рыхтуем
Пад зерне пульхную раллю.

Быў час — нам зімы не спрыялі,
Ды зноў заснежылі яны,
І мы надзеяй акрыялі
І мары пра сяўбу люлялі,
Калі над ёй лятталі сны.

Па ёй і коньмі і машынамі
Мы раз’язджалі дзе маглі.
Таптталі коламі і шынамі
Схаваны снегам твар зямлі.

Хадзілі, ездзілі штохвілі
Туды-сюды, туды-сюды...
Дарог, якіх мы нарабілі,
Усім хапіла б на гады,
Калі б яны былі са сталі
І ўраз са снегам не растталі.

І толькі гусеніц сляды
Я часта згадваю міжволі,
Што як знарок падобны болей
Не на шляхі ў зімовым полі,
А на гусіныя брады...

Акаймаваныя разорамі,
Зноў, баразна да баразны,
Мы тчэм палеткаў дываны,
Што потым стракацяць узорамі
І з траў, і з рознай збажыны.

Буяе збожжа веснавое...
За рунь святлейшае яно!
І ніў зялёныя сувоі
Ляжаць вакол, як палатно,
Якое і туман, і ліўні
Наспех адбельваюць у жніўні,
Вядома, з сонцам заадно!

## ССЯЛЕННЕ ХУТАРОЎ

Хутары, што ў палях адзічалі,
Як знарок зашумелі ўсе разам:
«Мы стаялі, нібы на прычале,
І з падмуркаў прадзедаўскіх злазім.
Мы ссяляемся, хаты і клуні,
І з'язджаемся ў новы пасёлак.
Дык бывайце, прысады і руні,
Мы прышлём вам паклон з Навасёлак...»

Кожны хутар — з разваленым зрубам,
Хлеў ці хата — з раскрытай страхою...
«А мы новыя, новыя рубім!» —
Не змаўкаюць сякера з пілою.

А слупы, як на свята ўваходзін,
Шпарка крочаць ад вёскі да вёскі.
«Вы куды?» — «Электрычнасць праводзім,
Каб не спалі начамі бярозкі...»

Адшумелі старыя прысады —
І гудзяць электрычныя пілы...
Калі сталі шырэй далягляды,
Значыць, стануць вышэй небасхілы!

***

Палоскай бялеючы тоненькай,
Туман непрыкметна сплыве,
І ветрык над майскай антопаўкай,
Схіліўшыся, завязь сарве.
Загінулі яблыні ў квецені —
З карэннем ляжаць на зямлі.
Журботна галіны іх сплецены,
І плачуць над імі чмялі.

Сядзібы свае пакідаючы,
Да вёсак бягуць хутары,
І белымі зданямі ўдалечы
Блукаюць сады да пары.
Адны з іх ляжаць анямелыя,
Другія — да лета цвітуць
І ў цвеце, як ветразі белыя,
Здаецца, па руні плывуць.

Няма калі думаць пра дробязі —
Нястача спрадвечная дзён!
Сяўба ці касьба — і на провадзе
То вобласць вісіць, то раён.
Ніколі з-за працы напружанай
Спачыну няма трактарам,
І ў квецені гінуць асуджаны
Былыя сады хутаран.

***

Засінела васільковая сінь,
За ракою зацвіла сенажаць.
І, ад паху захмялеўшы зусім,
Несціхана перапёлкі крычаць.

Непрыкметна і касьба настае,
Тая ж любая з дзяцінства касьба...
Да зямлі спусціўшы косы свае,
Па-старому зелянее вярба.
Задуменна я гляджу на яе,
А калісь, хлапчук, я лазіў па ёй.
І яна мяне пазнае
Іківае мне галавой.

Б'е крынічка, і цурчаць струмяні.
А над ёй — такі ж аерчыку жмут...
Я прыйшоў наведаць даўнія дні,
Дні маленства, што пакінуў я тут.

## ПАСТУШКА

— Што я чуў? Ці ведаеце, хлопцы?
Праўда, я не веру гэтай плётцы
І маніць наогул неахвочы,
А пачуў — на лоб палезлі вочы.
— Можа, вушы? — долю смеху хтосьці
Сыпле ў мех агульнай весялосці.

А жывём мы весела. Прычына?
Як заўсёды, лепшая дзяўчына.
А пасада ў дзеўчыны якая!
Пастуха часова замяшчае.
— Добры дзень!
Ну як твае каровы?
Ці наеліся? Ці ўсе здаровы?
— А чаму ў цябе адны цялушкі? —
Прыстаюць вар'яты да пастушкі.
А яна — паважная такая —
Ні на кога ўвагі не звяртае.

«Чулі мо? — і я ўстаўляю слова,
Каб сябе не выдаць выпадкова.—
У пастушкі ёсць імя...»
— Якое?
— Сонечнае! Ледзь не залатое.
— Можа, Кветка?
— Не.
— Тады Красуля!
— Не Красуля толькі, а красуня!

Не, я ўдзелу ў жартах не прымаю,
Я сустрэчы з ёй успамінаю.
Тварык Соні — смуглы ад загару,

А дыханне — гарачэй ад жару,
І, як жыта белымі ўюнкамі,
Перавіты косы каснікамі —
То ружовай, то ліловай стужкай...
А яна ўсяго пакуль пастушка!
Ну а што, калі даяркай стане?
Прападзе тады маё каханне!

## ЗОСЯ І ЛЮСТРА

«О, каб русыя мне косы!
Вось чаго мне не стае!
І не гэткі нос курносы —
Хлопцы ўсе былі б мае!»
Зося ў люстра пазірала
І, цярэбячы брыво,
Ледзь не з плачам наракала
На такое хараство.

Люстра толькі зіхацела,
Ды маўчала кожны раз,
Але зараз не сцярпела
І прамовіла ў адказ:
«Я штовечар гэта чую.
Дзе ж ты возьмеш, як няма?!.
Не паправіш долю злую —
Гэта знаеш і сама.
Ты разумная затое,
Гаспадыня — хочаш знаць,
Маеш сэрца залатое,

І не трэба сумаваць...» —
«Знаю,— Зося адказала,—
І ў мяне надзея ёсць,
Але ўвагі вельмі мала
На мяне звяртаюць штось».

Зося ў полі працавала,
Лён палола, буракі,
Вольным часам вышывала
Абрусы і ручнікі...
Вечар быў — звычайны, росны.
Бубен вальсы адбіваў.
Хлопец, ветлівы і рослы,
З ёй адною танцаваў.

Гэта быў яе каханы,
Самы любы, дарагі,
Або нехта нечаканы,
Непрадбачаны другі,
Але ўжо амаль разднела,
Як вярнулася яна
І ў люстэрка паглядзела,
Падышоўшы да акна:
«Не, чаго... Я маладая
І не брыдкая зусім...
Ён сказаў мне: «Дарагая!»
Як было мне добра з ім!»

Люстра, бліснуўшы спрасоння,
Прашаптала ціха ёй:
«Ты прыгожая сягоння
І заўсёды будзь такой!»

***

Падзея! Наш зямляк з Амерыкі
Прыехаў назусім з сям'ёй.
Спачатку людзі не паверылі:
Няўжо з Амерыкі самой?

«Прыехаў. Хоча жыць сумленна.
Там робяць грошы — ён не ўмеў».—
«Не ўмеў, ты кажаш? І дарэмна!»

Прыехаў — гэта ўсё ж прыемна!
Чаго — ніхто не разумеў.

— А кажуць, жыў ён там нядрэнна,
Уласны дом і працу меў.
— Хто кажа? Хто там быў ці бачыў?
Што ён рабіў — служыў, батрачыў?
— Ён меў, расказваў, бізнес нейкі...
— Пад назвай «прадаю наклейкі».

...Вось так пра гэта гаварылі
Хто жартам, хто ўсур'ёз, курылі
Цыгары, мацалі далары,
Што ім прывёз «амерыканец».
— А жыў някепска ён — не маніць...
Увагу і на жарт звярнулі,
Што песня родная і танец
Яго вярнулі.

Негаваркі і нелюдзімы,
Ён пра сябе расказваў мала.
— І ўсё ж чаго там не ставала?
— Радзімы.

## ПАВОДЛЕ ЗАМЕЖНЫХ ФІЛЬМАЎ

Зазвініш залатою манеткаю
І, калі ты захочаш таго,
Зробіш праўду адзінуючу сведкаю,
Абаронцай злачынства свайго.
Кінеш гэту манетку злачынную —
І абрус-самабор на стале,
І цябе то з чароўнай жанчынаю,
То з маной белы свет застае.
Кінеш больш —
прэзідэнтам становішся,
Задаеш у палітыцы тон.
У пагрозах шукаючы сховішча,
Выстаўляеш ракетны заслон.
І праслаўлена і абясслаўлена
Залатая манета крывёй,
Са слязьмі напалову разбаўленай,
Што нябачна сцякае па ёй.
І Зямля — напалову расколата,
На дабро ў свеце мала надзей...
Прага ўлады з уладаю золата
Па-ранейшаму губяць людзей.

***

Хутка будзем да зорак лятаць
Са сваёй цудадзейнай планеты,
Ды ніхто не забудзе, відаць,
Запуск першай касмічнай ракеты.

Явай робяцца казкі і сны.
Незвычайнасцю гэтай падзеі
Быў абуджаны кут наш лясны,
Як прырода з прыходам вясны,
Як душа са з'яўленнем надзеі.

Восень несла з сабой халады,
Ды было недарэчна тады
Гаварыць пра бяду і няўдачы,
Шкадаваць маладыя гады
Або час бесклапотна дзіцячы.

Сумаваць па вясновай вярбе
Ці дарэмным людскім спадзяванні
І тужыць у салодкай журбе
Па няпэўным дзявочым каханні.

## ЦЯЛУШКА

Ля хаты пасвіцца ў нас цялушка
Па імю Зорка.
Наесца, скача сабе пястушка
Сярод надворка.
Найгорш часінай гарачыні,
Як да цялушкі
Смалою вяжуцца авадні,
Сляпні і мушкі.
Яны, як хмары, вісяць над ёй,
Гудзяць раямі,
Няма ратунку ад іх — ой-ой! —
Такімі днямі.

Усе пакутуюць нізашто.
Вось і жывёла...
Гляджу і думаю, як ніхто,
Я невясёла.
І, як хмурынкі нябачнай цень,
Лаўлю здагадку:
Што трэба Зорцы ў спякотны дзень?
Відаць, спачатку
Травы наскубціся на папары,
Вады напіцца,
Пасля ад заедзі, як ад кары,
Абараніцца.

* * *

І дзякаваць некаму час настае
За тое, што ты — малайчына.
Дык дзякуй, жыццё,
што ёсць хлеб на стале,
А ў марах — красуня-дзяўчына.
Матуля на стол гэты хлеб падае,
А тая, што сніцца мне,— дома.
А дзе — не скажу. Я шукаю яе...
І хутка знайду, як вядома.
А мара ў мяне, як і доля, адна
І думка адна, як заўсёды:
Каб мне гэты хлеб падавала яна
І быў ён зарукаю згоды.

* * *

У клубах і на танцах розных
Увага тым, хто прыгажэй.
Мы ад равесніц несур'ёзных
Не можам адарваць вачэй.
Увага тым, хто лепш танцуе,
Тым, хто смяецца весялей
І хто не надта пратэстуе
Супроць альтанак і алей.
Калі ж мы думаць пачынаем,
Што нам сям'ю заводзіць час,
Ці ж мы пра тых успамінаем,
Каго мы крыўдзілі не раз?
Чаму ж мы іх, сардэчных, любых
Не хараством, а дабрынёй,
Кідаем без увагі ў клубах
Сам-насам з крыўдаю сваёй?

* * *

Я чакаў, як свята, нядзелю,
Як зімой чакаюць цяпла.
На сустрэчу таіў надзею,
Але ты і зноў не прыйшла.
Грымнуў музыкай вечар майскі —
І хацеў хто ці не — усіх
Закружылі, панеслі вальсы
Завірухай гукаў жывых.

І дарэмна шукаў цябе я
Між вясёлых шумных красунь,
І, як гасла ўсё больш надзея,
Разгараўся трывожны сум.

Не магла прыслаць прывітанне
І вярнуць з ім хоць радасць мне?
Я ж не ведаў яшчэ, што ўранні
Ты мне вернеш яе — у сне.

## ПЕСНЯ КАХАННЯ

Цябе ў гэты вечар усе заўважалі,
І кветкі агульнай увагі
Ля ног тваіх пышным букетам ляжалі —
Бяры ці тапчы без развагі...

Я толькі адзін сваю ружу не кінуў.
Магчыма, я горды залішне:
Бярог, як ад сцюжы, ад плётак і кпінаў
У засені сэрца зацішнай...

Я выйшаў развеяць трывогу кахання:
Той зведаў яе, хто кахае.
Хутчэй, чым пачуў, я адчуў, як дыханне,
Што ты падышла, дарагая.

«Выходжу — за мною бягуць як мага ўсе...
А я — за табой... Мо пад клёнамі стапем?
Усе, хто кахання ў мяне дамагаўся,—
Спяшаў ашчасліўіць спатканнем.
Я верыла ўсім... Я прыйсці абяцала.

Кафэ, рэстаран... За прызнаннем — прызнанне.
Кахаць я нікога яшчэ не кахала —
Мне добра было без кахання.
Тады я не думала ўпотай пра тое:
А што, каб зрабіла мяне непрыгожай
Ці нават калекай няшчасце якое?
Ніхто і не глянуў бы, можа!
А знаеш, чаго я заўсёды хацела?
Каб хтосьці ўва мне палюбіў чалавека.
Хоць, праўда, рабіць я нічога не ўмела
І ў вас праслыла б недарэкай...
Бывала, не раз і не два выпадкова
Мне кідалі крыўдныя словы знявагі...
О як не хапала мне цёплага слова!
І слова, і проста павагі.
І вось я прыехала ў вёску да цёткі.
Хаджу памагаю палоць ёй дзялянку.
Гарод матыкую... Дагледзела соткі.
І так нахаджуся ад ранку,
Што цяжка, здаецца, ступіць і нагою,
А рукі пякуць і свярбяць ад свірэпы,
Але задаволена ўпотай сабою
І сплю, натаміўшыся, лепей...
І ты кожны раз у мяне прад вачыма.
І так захачу цябе ўбачыць часамі,
Што выйду... На дом твой гляджу беспрычынна,
А ён — як зара над лясамі!
А ўранку змагаюся зноў з лебядою.
Прапалка, прарыўка, капанне, сушэнне...
У працу ўцягнуўшыся з горам-бядою,
Знаходжу я ў ёй суцяшэнне.
Найгорш, як цябе я з дзяўчатамі ўбачу...
О як я раўную! І як я злуюся!
І плачу ад крыўды, ад рэўнасці плачу,
Як дома адна застаюся...»

Такое пачуў я ў той вечар прызнанне.
Які я шчаслівы! Шчаслівы ці, можа, няшчасны?
Я ружу не кінуў... Магчыма, і так яна звяне
Ад крыўды балючай. Ці, можа, мой смутак
дачасны?

«Каго пакахаў я, каго? Не дачушку,
Адзіную ў маці, свавольна-капрызную, злую?
Наогул прыгожую... мілую цацку-пустушку.
Прывабную ляльку... А марыў хіба пра такую?

Не, вырву я з сэрца няшчаснае гэта каханне!
Каханне? Якое карэнне б яно ні пусціла?
Адданаю, любай сяброўкай такая не стане.
Але ці змагу, ці не здрадзяць мне воля і сіла?

І воля, і сіла... А можа, яна не такая?
Мо збілася толькі з нялёгкай жыццёвай
дарогі?
І згублены след у адчаі дарэмна шукае?
Ды цяжка адной, як няма ніадкуль дапамогі...

Яна і мяне — на якую бяду? — пакахала.
Даверыла тайну сваю... І пасля пашкадуе?
А я не кахаю яе? Хіба ж гэтага мала?
Ці, можа, мінулага ёй дараваць не магу я?»

Вось так пачалося пакутнае гэта змаганне
Паміж самалюбствам маім і юнацкай пяшчотай.
І сэрца шукала табе, як магло, апраўданне,
Суцішыўшы розум і волі пазбавіўшы ўпотай.

І хто перамог бы тады, я дагэтуль не знаю,
Каб ты не прыйшла і, журботная, мне
не сказала,

З такой невыказнай тугой і пяшчотай:
«Кахаю!» —
І лёгка тады мне, і светла, і радасна стала.

Які я шчаслівы! Пакуты і крыўды забыты.
Ды гэтае шчасце мне цяжка надзвычай далося:
Не думаў я колас, дажджамі і сонцам наліты,
Шукаць між пустога, пабітага ліўнем калосся...

* * *

Ты ад розных красуняў чуеш
Пра геройскіх каханкаў іх
І мо ўпотай не раз шкадуеш,
Што чамусьці я не з такіх.

Быў сур'ёзны, вясёлы, строгі,
А сказаць і жартам не змог.
Што і месяц схаплю за рогі,
Каб пакласці табе да ног.

Як адкрылі ў космас дарогу,
Кожны будзе так жартаваць.
Я ж умею памыць падлогу
І абед магу згатаваць.

Лепш пакоі я пафарбую —
Хай, як люстра, столь зіхаціць,
Калі месяц у золь начную
Будзе ў вокны мае свяціць.

А свяціць ён на небе, мабыць,
Будзе лепш, як ля ног тваіх.
Нас і ўвосень у сад завабіць,
Дзе твой шэпт яшчэ не заціх.

Ён чуваць мне ў шуме бярозы.
Мы не раз стаялі пад ёй.
І бурштынкі расы, як слёзы,
Па шчацэ сцякалі тваёй.

І не раз, калі сонца сядзе,
Мы і працу скончым якраз.
Пасядзім у прыціхлым садзе,
Дзе стаялі раней не раз.

Там пагутарым мы з табою,
Як жывём і як будзем жыць...
Месяц з неба, не зняты мною,
Будзе радасна нам свяціць.

## МЕСЯЦ

Узыходзіў ён шарам,
пунсавеючы жарам,
І за цёмным зяленівам дрэў
Ён здаваўся не поўняй,
а таемным пажарам,
Быццам стог у зарэччы гарэў.
Потым вогненным шарам
ён ляцеў над абшарам
І, уражаны цішай жытла,

Наваліўся на шыбы
                    неймаверным цяжарам
Залатога, як жыта, святла.
Асвяціўшы аблогу
                    з-за лясістага логу,
Ён хацеў зазірнуць у пакой,
Але з рамай аконнай
                    паляцеў на падлогу
І, як сноп, расцягнууся на ёй.
Ён ляжаў безжыццёва,
                    ён ляжаў нерухома,
Я праз сон толькі бачыў — жывы!
І яму я, вядома,
                    дапамог бы, ды стома
Не дала мне падняць галавы.
І пра тое, што поўня —
                    падарунак нявесты,
Потым снілася мне нездарма...
Прачынаюся рана,
                    бачу: рама — на месцы,
А майго падарунка няма!

***

У месячную ноч,
Калі і так прыгожа,
Твая краса, як нож,
Параніць сэрца можа.
Я нават і ўначы
Хаджу збіраць рамонкі.
Параніла — лячы!

Я дам пасаду жонкі.
За прыгажосць тваю,
Парыў душы і цела
Я сэрца аддаю
Табе з планетай цэлай!

І хоць сям'я — палон,
Магчыма, пажыццёвы,
Я да апошніх дзён
У ім пражыць гатовы.
Часамі мне шкада
Крыху былой свабоды,
Ды гэта не бяда —
Чагось шкада заўсёды.
Здаюся? Так, хаця
І не хацеў здавацца.
Такі закон жыцця!
Нашто супраціўляцца?

## МЯДОВЫ МЕСЯЦ

Я падумаў, што мядовы месяц —
Час гасцін, ды верасень — не час,
Каб у госці бесклапотна ехаць —
Бульбу пачалі капаць якраз.
Ды затое я змагу з каханай
Зазірнуць да восеньскіх лясоў,
Як на ўзлесках будуць разасланы
Абрусы з ліловых верасоў.
Але вось прыносіць мама вестку:
— З панядзелка ўсе на буракі...—

І глядзіць з усмешкай на нявестку: —
А пасля — на бульбу. Час такі!

На зямлі, спрадвеку неўрадлівай,
Але ўсё ж дагледжанай зямлі,
Буракі цукровыя надзіва,
Як у казцы рэпка, параслі.
Я люблю з расой — лапатай лёгкай
(Дождж не дождж, а ўсе на бураках)
Выкарчоўваць іх з лістотай крохкай,
Што хрусціць і ломіцца ў руках.

А жанчыны... Як яны цярэбяць!
Любая мая — найлепш за ўсіх!
Не стрываю і скажу што-небудзь,
Каб крануць жаночы гонар іх.

— Пачакай крыху, яшчэ прыстане!
Толькі будзь даўжэй на малацьбе.
Трэба ж напачатку... Праўда, Маня?
А яна ўсміхаецца сабе.

Я іду на малацьбу, з сабою
Вобраз мілы ў сэрцы несучы,
І не веру, што не зможам з ёю
Мы каханне гэта зберагчы.

З малацьбы, запрогшы пару коней,
Я спяшаю зноў на буракі.
План, пытаю, выканала сёння?
І зайздросцяць, бачу, ёй жанкі.
Бурачэнне адвязу на сілас,
На канюшню коней адвяду,
І такая стомленасць асіліць,
Што дамоў, здаецца, не дайду.

Я прыходжу, а яна ўжо дома.
Са спагадай шчыраю зірне:
— Натаміўся, бедны...— знікне стома,
Як яе і не было ў мяне.

А яна ж натоміцца таксама...
Горш, чым я, устаўшы зацямна.
І, чаруючы на кухні з мамай,
Ля пліты находзіцца яна.
І, схіліўшыся галоўкай мілай
Нада мной, будзіць мяне пачне:
— Спіш? Учора я спытаць забыла,
Будзеш сёння ты ўставаць ці не...
— Буду. А дажджу няма?
Смяецца:
— Глянь, вунь лета бабіна прыйшло.
Я гляджу: струменячыся, льецца
На зямлю блакітнае святло.

У паветры — пасмы павуціны
І варон чароды, як дымы...
Мы ідзём на поле... А гасціны?
Могуць пачакаць і да зімы.

***

Любая і дарагая —
Яшчэ ўсё з дзявочай касою —
Бульбу сядзіць абірае,
А я ўсё любуюся ёю.

Бульбу сядзіць абірае,
Нячутна лупінка віецца...
Яна ж на яе не зважае —
Глядзіць на мяне... і смяецца.

О радасць мая ты!
— Марыся,
Давай памагу!
Паківала
Галоўкай сваёй, смеючыся.
— Не трэба,— мне ціха сказала.—
Лепш сядзь,
пасядзі тут са мною —
І гэтага будзе даволі...
Вось так і гатуем мы з ёю
Вячэру ўжо год, як не болей.

***

Ой, не кажыце: «Ён харошы!
Ён не прап'е, не падмане...»
Не ўсе б і я прыносіў грошы,
Ды жонка золата ў мяне.
І я на кухні ёй з ахвотай
Дапамагаю нездарма.
Адно вазьмуся, скажа: «Што ты?
Не трэба — я зраблю сама...»

З мяне падмогі — кот наплакаў,
Ды хто за гэта папракне?

Я — ёй букет пунсовых макаў,
Яна — пірог бялюткі мне!
А з ім шумне і піва кварта,
Каб апетыт не горшаў мой...
Хіба ж пасля ўсяго не варта
Дапамагчы чым-небудзь ёй?!.

* * *

Шлях зімовы — лёгкі, санны.
Скрып вясёлы палазоў.
Ну, хутчэй пайшоў, буланы!
Весялей яшчэ пайшоў!

Пуга ёсць — ты конік шпаркі,
А без пугі — не скрануць.
Што за дзень! Марозны, яркі,
І на небе — ані хмаркі:
Сінь, ды бель, ды каламуць.

Ну яшчэ, буланы, трошкі!
Хоць вакол мігцяць дарожкі,
Ды не бачна белячкоў...
Доўгі шлях ад тарфакрошкі
Да цукровых бурачкоў!

І гарох заплапаваны.
Будзем разам есці... Но!
Ты — гарошвіны, буланы,
Я ж — гарошынкі адно.



* * *

То дождж ідзе, то мокры снег...
Цурчыць са стрэх.
І на дварэ слата і гразь,
Хоць не вылазь!
Халодны сівер дзьме з акна —
Ідзе вясна,
Што, бровы хмурачы, не-не
Ды і дыхне,
Што, вочы жмурачы, не-не
Ды і зірне...
Ідзе вясна — чакай цяпла.
Ідзе? Прыйшла!

* * *

Бабка Адліга прадзе кудзелю,
Прадзе суботу, прадзе нядзелю.
З яе кудзелі — бялюткай, снежнай —
Выходзяць ніткі пражы капежнай.
Між тым напоўніцца сном надзем'е,
І бабка стоміцца і задрэмле.
А Дзед Мароз, як штукар вялікі,
Куе з тых нітак стальныя пікі.
Ён у застрэшша іх паўтыкае
І весні ранак сядзіць чакае.
Ён не танцуе ў вясны пад колам —
Сядзіць за пікавым частаколам,
Ахвотнасловы, срэбнагаловы,
Вясну заўсёды сустрэць гатовы!

***

Неба — шырай, сонца — вышай.
Развітальны бляск снягоў...
І блакіт вясновы выйшаў,
Нібы рэкі, з берагоў.

Але замаразак — дзёрзкі,
І ў зімы прапаў адчай.
Зноў за ноч, як госць заморскі,
На двары замёрз ручай.

***

Пад парогам вясна,
А зіма за парогам.
Замінае яна
І гаям і разлогам.
Толькі ноч настае —
І мароз прабірае!
Замарозіць яе
Захацела старая.
Сівер, сівер, не дзьмі!
З красавіцкай завеяй
Замірае ў зямлі,
Як дыханне, надзея.
Ды паблізу жылля
Па-вясноваму міла
Зачарнела зямля
І вясну прытуліла.
Там рыхтуе тайком
Госця наступ свой новы,
Каб маёвым цяплом
Выгнаць холад зімовы.

***

Ад усхліпванняў капежных
Ды ад звону ледзяшоў
Ціхі плач сумётаў снежных
У гамонку перайшоў.

Перайшоў у булькатанне,
Зябкі плёскат ручаін,
Што мелодыяй світання
Льецца ў прысмерку з лагчын.

Лёд зламаны, снег сагнаны...
Зноў зялёны кут лясны!
Шум паводкі несціханы —
Пераможны марш вясны!

* * *

Паводка з поплаву сышла.
Што нашумела — не ўзяла
(Паветра — сіняе і цёплае...).

Падняўшы феерверк святла,
Абдаўшы хваляю цяпла
(Яго зімой збіраў па кроплі я),

Надзея крылы падняла,
І ў сэрцы радасць узышла
(Як і трава на гэтым поплаве).

## ЧАС ДЗЬМУХАЎЦОЎ

1

Раздзьмувае на часцінкі
Дзьмухавец свой шар пуховы,
Выпускаючы пушынкі
Па адной у свет вясновы.
Ён даўно засох бы з сенам
У гарачы час прадлецця,
Парашуцікі з насеннем
Не разносячы па свеце.
Не хавае сонца ўсмешку:
Промні скачуць, як смяшынкі.
Ці ўтрымаўся б ён на ўзмежку,
Каб не гэтыя пушынкі?

2

Крадком пчала па кветках шарыць.
Луг дыванам здаецца мне.
Вось-вось мільгне пуховы шарык
На гэтым жоўтым дыване...
Гудзенне пчол здзьмухнула цішу.
І, ледзь варушачы дубцом,
Гляджу, нібыта коцік з мышшу,
Гуляе ветрык з дзьмухаўцом.

3

Нешта — цяжэй, нешта — лягчэй,
Толькі адно не забудзь:
Мыльны пухір выдзьмуць цяжэй,
Чым адуванчык здзьмухнуць.

* * *

Пасадзіла вішню я,
бо пара!
Вішанька не лішняя
ля двара.
*С. Дзяргай*

Не налюбуюся вішнямі,
Як і сваёю каханаю.
Вішнямі з пчоламі ўвішнымі,
З квеценню белай, духмянаю.
Не разбіраючы словы, я
Слухаю музыку спеўную.
Поўняцца думкі вясновыя
Прагай жыцця неспадзеўнаю.

Па-маладому жадаецца
І па-вясноваму марыцца.
Сонца святлом раскідаецца,
Сэрца, як неба,— не хмарыцца.
Хмурыцца вока ўсявышняе:
Выйшла, што лішні на свеце я.
Вішанька толькі не лішняя,
Нават калі яна — трэцяя.

* * *

За палеткам, што цягнуўся клінам,
Ледзь сцяна шумела баравая,
Ды злілася з ёю ў небе сінім
Нечакана хмара дажджавая
І расце з грымотным вуркатаннем,
Поўдню пагражаючы змяркаиием.

Праrрыміць раскацiста, як рэха,
I напоўніць маё сэрца ўцехай.

А пасля, грукочучы няспынна,
Вал пачне клубіцца навальнічны
І пад шум віхуры хуткаплыннай
У клубок звінецца бліскавічны,
Захлісне зямлю ў адно імгненне —
І наступіць поўнае зацьменне.

Мусіць, нехта зноў рабіў высновы,
Што захмарыць нельга дзень вясновы.

* * *

Буйны дождж па прысадах сячэ.
Б'ецца ў пене струмень на пяску,
І свяжэе зямля, хоць яшчэ
Бліскавіцы мігцяць убаку.

Але вось навальніца прайшла,
І на вецці вярбы за акном,
Нібы пацеркі з тонкага шкла,
Наліліся дажджынкі святлом.

А над грукатам ліўня цяжкім
Замігцела вясёлка здаля,
Як падкова каня, на якім
Праімчаўся па небе Ілля.

## ЧМЕЛЬ

Прыцаніўся чмель да квецені вішнёвай,
Калі вішня расцвіла ў блакіце мая:
«Дык пачым нектар твой, дарагая?» —
І загуў ад радасці вясновай,
Што на вішні квецень даравая.

Але ён свой мёд
схаваў глыбока ў сотах,
Соты — у сырой зямлі на ўзмежку.
Дзе — прасочыш па яго палётах
І затоіш на імгненне ўсмешку.

Адцвітае непрыкметна медуніца,
Каласіцца ў полі буйна жыта...
Самы час да мёду прыцаніцца,
Толькі чмель чагось гудзе сярдзіта.

* * *

Гэта музыка — радасць
І ад смутку ратунак.
Промні сонца
зара дасць
Толькі дню ў падарунак.
Гэта музыка — словы
Весялосці і скрухі,
Калі ранак вясновы
Робіць першыя рухі.

І ад поля да поля —
Стужка сініх валошак...
Гэта музыка — воля,
Гэта музыка — пошук!
Не сабраць
гэты россып
Незабудак і смолак,
Калі квецень — наросхліст
І ў пасевах і ў зёлак!

І на ціхай паляне,
І ў жыцці шматгалосым
Гэта музыка — ззянне,
А ў нягоду — і пошум!
На паўсвету —
квітненне
На парозе дасвецця...
Каб не гэта імгненне,
Ці ж было б што на свеце?!.

***

Кружыць хмара чорная
Чарадой варонняю,
Каб парушыць чэрвеня
Вечную гармонію.
Мы скасілі луг такі!
Пахне сена віннае,
І бяжыць улукаткі
Рэчка лугавінная.
Ціхая, балотная,
З плыннню каламутнаю,
Плёскае, журботная,
Хваляю нячутнаю.
Вербніца, алешніца,
То ў хмызах хаваецца,
То вачам, як грэшніца,
Раптам адкрываецца.
Нейкі час — аерніца,
Нейкі час — чаротніца.
З гаю ветрык вернецца —
Пашумець ахвотніца.
Дай ёй дно гранітнае,
Рэчышча каменнае,
І яна — блакітная,
І яна — струменная!

* * *

Ах, якая мітуслівая
Гэта чаіца імклівая!

Над вадою з крыкам носіцца —
У вады на бераг просіцца!

Чайка-чаіца — няўцешная:
Ёй падмога трэба спешная!

Дык чаго так плача чаіца?
Да вады не прызвычаіцца!

***

Стома песню-калыханку,
Як матуля, напявае.
Вочы мружацца —
да ранку
Сон павекі закрывае.
Ноч, як белыя падушкі,
На лугах туман узбіла,
І вакол заснулі птушкі,
Пра якіх яна забыла.
Ну а ўзбіла іх няйначай
Як з імкненнем да спачынку...
Каб драча,
што ў лузе плача,
Спаць пакласці на часінку.

## ОДА ДУБУ

Стаіш, не ведаеш нічога
Пра тое, што ты ў свеце значыш.
Шуміш ад ветрыку начнога,
Але наўрад ці сонца бачыш...
Не знаеш ты, імя якое
Табе далі на мовах розных.
Не мроіш у лясным спакоі
Пра славу паядынкаў грозных.

Хоць ты расцеш і зелянееш,
Шуміш зялёнаю лістотай,
Ты — не жывая, разумееш,
Ты — не разумная істота.
Ды, хоць з усім раслінным светам
Па аднаму жывеш закону,
Як уладар у свеце гэтым
Не падуладны ты нікому.

Ты — волат, і цябе не судзяць.
Таму твой лёс зайздросны нечым,
Таму ты ўтрымліваеш сувязь
З усім жывым і чалавечым.
Стаіш, шуміш зялёнай кронай
Як сімвал велічы і сілы.
На ёй — не зорная карона,
На ёй — спачылі небасхілы.

* * *

На асіне лісцё затрымціць
І, здаецца, кудысь паляціць,
Калі вецер захоча.

Ды, куды б ні ляцела яно,
Не пакіне галля ўсё адно —
Ёсць палёт і на месцы.

Каб лісцю на асіне трымцець,
Немагчыма ў прасторы ляцець —
І ляціць яно ў часе.

Але гэта — таксама палёт,
І з прыродаю круг свой штогод
Робіць лісце на дрэвах.

І, каб з ліку не збіцца, штораз
Пакідае кругі свае час
У драўніне, як знакі.

І па іх чалавек, як відаць,
Навучыўся лічыць, ды чытаць,
Ды пісаць на бяросце.

## ЖАЛОБНЫ ПЕЙЗАЖ

Пакуль ішло па вечным крузе сонца,
Па сінім небе хмаркі вандравалі
І лёгкія паветраныя хвалі
Вакол зямлі насілі іх бясконца.

Ды сонца села. Хмаркі кучавыя
Адны на жоўтым небе засталіся
І там слязьмі ад смутку заліліся,
Пасля загаварылі, як жывыя:

«Ты бачыш? Мы — з парванымі краямі.
Нас вецер гнаў, шматаючы сярдзіта.
Мы паміраем, крылле — перабіта,
І кроў па ім сцякае ручаямі.
Нас, як амаль на захадзе былі мы,
Нябачна саламандры перастрэлі,
І нам насустрач паляцелі стрэлы —
Прамені сонца, кінутыя імі.
А іх саміх — як бы і не бывала:
Умомант зніклі ў вогненнай пустыні.
І сонца нас бінтамі залатымі,
Заходзячы, наспех забінтавала...»

У пажаўцелым спаленым блакіце
Самотныя хмурынкі паміралі,
І конікі ў траве і спелым жыце
Жалобную мелодыю ігралі.

* * *

Конікі бясконца лічаць хвілі.
Я іду і пылу шлейф цягну.
Лівень на збялелым небасхіле
Падымае хмару, як сцяну.
Можа, дождж навалаю грымотнай
Прашуміць і на маім шляху?
Над зямлёй блукаючы спякотнай,
Ён бушуе ў вогненным мяху.
Пахіліўшыся ў мой бок, як вежа,
Хмара з кожнай хвіляю расце.
Вецер, наляцеўшы, хваляй свежай
Б'е мяне з размаху па шчацэ.
Бог Пярун яе багаслаўляе:
Ломіць з трэскам пікі бліскавіц
І, зламаўшы, на зямлю шпурляе
З недасяжных, як і сам, байніц.
А навокал толькі жыта, жыта,
Што стаіць, схіліўшыся, сцяной
І ў трывозе шэпча мне нібыта:
«Што марудзіш? Прападзеш са мной...
Вунь стаіць пакінуты будынак...
Бачыш? Лівень супраць збажыны!»
Так, няроўны гэты паядынак,
Хоць сцяна стаіць супроць сцяны.
Наляціць віхор — і лівень хлыне,
Быццам іх вадою разалье...
Ад адной — ні следу не пакіне,
А другую — да зямлі прыб'е.

* * *

Час даспявання збажыны.
Зірнеш — зялёны гай насупраць,
І ў ім пачуеш ты прысутнасць
Яшчэ нябачнай жаўцізны.

Яшчэ зялёная трава,
Яшчэ шумяць лістотай клёны,
Ды напярэдадні жніва
Зялёны колер — не зялёны...

Хоць жаўцізна не напаказ,
Ды ў сэрцы сум яе знайшоў ты...
Ці не таму расстання час
Сімвалізуе колер жоўты?

***

Дзень імглу развее —
І далей угрунь!
Светла зелянее
Маладая рунь.
Выгляд невясёлы
Там, дзе блісне серп,
А палетак голы —
Як рака без верб...
Песняю ўраджаю
Жнівень празвінеў
І слязою жалю
Скончыў свой напеў.
Гэты жаль па небе
Хмарамі пайшоў —
І хапіла глебе
Да зімы дажджоў.
Золакам вясновым —
Палюбуйся! — вунь
За ляском сасновым
Засвяціла рунь.

## АСЕННІ САД

Я гляджу на асенні наш сад,
Што стаіць у вішнёвым вянку.
Сямі колераў лісце прысад,
Сем адценняў у кожным лістку.

Ну а дрэвы гарэць сапраўды:
Рэшткай чырвані той, што яны
Ружавілі на сонцы плады,
Аблілі свой убор лісцяны.

Павуцінне аблытала дні.
Плача лета ў яго правадах.
І трапечуць у жоўтым агні,
Нібы факелы,
грушкі ў садах.

Як шугае, ледзь вецер падзьме,
Нерухомае полымя іх!
Не пратэст і не выклік зіме
Самаспальванне дрэў ліставых?

Колькі смутку ў асеннім святле!
Колькі жалю ў апошнім жыцці!
І святлей,
чым вясёлка на шкле,
Адліваюць адценні ў лісці.

Барвы, золата ўсіх зараніц
Зіхацяць у асенніх садах.
І, каб іх ад агню бараніць,
Дождж і вецер ідуць па слядах.

І тады надакучлівы дождж
Топча барвы лісцёвыя ў гразь.
Лета бабіна...
                    Дрэвы гарацЬ.
Ну а нам гэта ўсё прыгажосць!

* * *

Завывае вецер,
Дождж у шыбы б'ецца —
Не ў настроі вечар:
Хмурыцца, злуецца!

У яго прасілі
Месячнае ззянне,
А на небасхіле
Хмары, нібы здані.

Закаханых просьбы?
Восень зірк спрасоння:
«Што такое?» — «Вось бы
Месяц даць ім сёння!»

Ды як буркне восень:
«Месяц не патрэбен!
Нават каб і просінь
Не была на небе!»

Вось таму і вечар
Хмурыцца, злуецца!
Завывае вецер,
Дождж у шыбы б'ецца...

***

Я любіў і люблю
Гэта сонца асенняе, нізкае,
Што журботна-журботна глядзіць на зямлю
Ці з-за хмар неласкавых паблісквае.
Я любіў і люблю,
Як і неба, зямлю невясёлую —
З астраўкамі азіміны першай зямлю
І з апошняй травой, ці пабляклай, ці кволаю.

У аконнае шкло
Б'ецца непагадзь — сцюжа асенняя,
Густа сеючы лісце, як сеяў у полі насенне я,
Што ліловаю рунню ўзышло.

І дажджыць, і вятрыць,
Калі хмарыцца неба няветлае.
Я любіў і люблю гэта свята Кастрычніка
светлае,
Што, як вечная памяць, агнём непагасным
гарыць.

О рабіны прысад!
Пунсавейце даспелымі гронамі,
Як між восеньскіх будняў сцягамі
чырвона-зялёнымі
Дні кастрычніцкіх свят.

* * *

З раніцы неба туманіцца шэрае.
Сяміметровымі крокамі мерае
Сумнае поле вятрыска пранізлівы...
Што ж у яго вы цікавае вызналі?

Мерае, мерае,
Кружыцца, кружыцца...
Сіняя далеч дарэшты засмужыцца
І дажджавою завесіць заслонаю
Поле асенняе з руняю зялёнаю.

Хто яе просіць,
Панурую непагадзь?
Плача, галосіць —
І трэба ёй нечага ж?
Сэрцам тваім
Цішыня завалодае,
Чуецца ў ім
Веснавая мелодыя.

Хмарнасць усе краявіды завесіла.
Гліна, пясок —
непралазнае месіва.
Ты — не ўгаворыш! —
Дажджом гэтым цешышся,
Радасць не дорыш
І смуткам не свецішся.

Радасць твая не зусім зразумелая.
Сяміметровымі крокамі мерае
Сумную, хмурую

Роўнядзь панурую,
Нібы там знойдзеш лагоду мінулую.

Пройдзе стагоддзе,
Пакуль распагодзіцца.
Золак на ўсходзе,
Як песня, народзіцца.

## ПЕРШЫ СНЕГ НА ДВАРЭ

Снег... Да раніцы ён
Роем квецені буйнай
Сыпле, белы, густы —
Мільгаціць у акне...
Светлы, лёгкі мой сон,
Так святочна і ўтульна,
Як тады, калі ты
Снішся, любая, мне...

Снег — праз вокны відно —
Сапраўды толькі выпаў.
Ён ляжыць на галлі,
На кустах і платах.
Ён заляпаў акно,
Сходкі, ганак засыпаў
І нагнуў да зямлі
Правады на слупах.

Свет зірнуў весялей.
Ды з марозам не гульні!
Толькі выпадзе снег —
Ён уладу бярэ...
А ў пакоі святлей
І як быццам утульней.
Апрануўся наспех...
Першы снег на двары!

* * *

Зямля пад снегам — добры знак.
Мігцяць дарожак віражы.
Мароз на шыбы, як мастак,
Наносіць срэбрам вітражы.
Зімовы — кожны краявід
(Найбольш пейзажы любіць ён),
І сонца, песцячы блакіт,
Крадком сцірае іх з акон.

## СІНІЧКІ

Гронкі ў снезе — уцеха рабін.
І галінкі, як снег, атрасаюць:
— Цінь-цілінь, цінь-цілінь, цінь-цілінь!—
Звон, з якога агонь выкрасаюць.

І куды ні зірнеш — бель і сінь!
А ў бязмежжа дарог не пытаюць.
— Цінь-цілінь, цінь-цілінь, цінь-цілінь! —
Гэта гукі, што ў небе лятаюць.

І, як згадкі найлепшых хвілін,
Хоць спыняюць — назад не вяртаюць.
— Цінь-цілінь, цінь-цілінь, цінь-цілінь! —
З гэтай песняй сады расцвітаюць.

І, як снег або іней з галін,
Так з душы яны сум атрасаюць.
— Цінь-цілінь, цінь-цілінь, цінь-цілінь! —
Гукі, іскры якіх не згасаюць.

* * *

Даўно за начнымі завеямі
Набегаўся вецер і спіць,
І, як маладая, у вэлюме
Бярозка красуняй стаіць.

Стаіць яна ў полі, чароўная,
І толькі мароз прызнае.
І дзіва! Чагосьці ўсё роўна я
Па снезе іду да яе.

* * *

Між хвой завея на марозе
Адна скакала
І на заснежанай дарозе
Мяне чакала.

Я ўздрыгнуў і замёр, збялелы,
Бы нешта страціў,
Як на асіне заінелай
Застукаў дзяцел.

Я любаваўся ім употай,
А ён адкрыта
Сядзеў і працаваў з ахвотай —
Такой, нібыта

Хацеў здабыць не хлеб надзённы —
Агонь з асіны,
Каб ён сагрэў у дзень сцюдзёны
Мае ўспаміны.





***

Узлессе,
Усполле,
Узрэчча...
На ўзмежку зялёным стаю,
І птушка ў блакіце трапеча,
Спяваючы песню маю.

Міжрэчча,
Міжполле,
Міжлессе...
Мільгаюць стагі між лугоў,
І сіняй смугой паднябессе
Ахутвае вежы стагоў.

Залессе,
Зарэчча,
Заполле...
Усё — як за нейкай сцяной.
І зоркі, як свечкі, паволі
Запальвае ноч нада мной.

***

Як закруціць мяне мітусня,
У знямозе смяюся і плачу
І чакаю наступнага дня,
Калі ён абяцае мне ўдачу.

Не чакаючы — жыць не хачу!
На чаканне — жыццё сваё трачу
І апошнімі днямі плачу
За адно спадзяванне на ўдачу.

***

Я стамляюся, вельмі стамляюся:
Дзень, як мора,— ніяк не пражыць.
Я натхненнем сваім раскідаюся,
Не прывык пачуццём даражыць.

I мяне хваляванне агортвае
Перад кожнай вярстой у жыцці —
Разальецца, як возера мёртвае,
Што і хваляй не ўсплёсне ў трысці.

Я змагаюся з ім колькі моцы і...
Зноў гару на агні пачуцця,
I мяне выключаюць эмоцыі
З беспрасветнага тлуму жыцця.

Застануся сам-насам з прыродаю
Ці гляджу задуменна ў акно —
I тады незямной асалодаю
Напаўняе мне сэрца яно.

А за гэта плачу я стамлёнасцю,
Штохвіліннай трывогай плачу,
I гляджу я на свет з пранікнёнасцю,
Ад якой потым цёмна ўваччу.

* * *

Калі сумуеш — найбліжэй да зор...
Мне хочацца тады блукаць бязмэтна
І боль душы рассеяць непрыкметна
Сярод лугоў, узлескаў і азёр.

Я нарадзіўся ў нешчаслівы міг,
Калі, адкуль ні глянь, зямля ў тумане.
Імчыш, як быццам сэнс жыцця спасціг,
І раптам — святлафор на скрыжаванні.

Каб выехаў раней або пазней —
І быў бы ты разумны і прыгожы!
Зірнеш на свет, здаецца, весялей —
І зноў стаіш на нейкім раздарожжы.

І ўсё ж я веру ў тысячу прыкмет
І імі, як удачай, акрылёны:
Калі на той збяруся ехаць свет —
Адразу ўспыхне святлафор зялёны!

***

Я магу здзіўляцца — не здзіўляць.
І насустрач выйсці ліхадзею.
Я ад смутку ўмею замаўляць
І вяртаць апошнюю надзею.

Я магу смяшыць і забаўляць,
Нават сілай надзяляць пахілых,
Ды не ўмею мёртвых ажыўляць,
А тым болей — акрыляць бяскрылых!

Нешта ўмею я, а нешта — не,
Як і ўсе або амаль што кожны.
Можаце разлічваць на мяне:
Падтрымаю! Я — не асцярожны...

Напаказ не буду выстаўляць
Пры выпадку слабасці чужыя...
І не буду сонцу вымаўляць,
Калі раптам змокну на дажджы я.

* * *

Быць хачу я раўнадушным
Да тупіц і да дурніц,
Ды развагі словам слушным
Абурэння не спыніць.
Я такой не маю моцы,
Каб не выдаць сум ці смех,
І залежу ад эмоцый —
Як ад сонца весні снег.

З часам сэрца паступова
Супакоіцца, відаць,
І без квецені часовай
Я не буду сумаваць.
Месяц — мёртвая пустыня —
Свеціць сонечным святлом,
Ды не будзе, як астыне,
Сэрца грэць былым цяплом.

## ТУГА ПА КАХАНАЙ

Што з намі робіць пачуццё —
я забываю.
Нашто нам дадзена жыццё —
не разважаю.
Жыву ў замкнёным крузе я —
табой замкнёным,
І дзесь ілюзія мая
стаіць пад клёнам.
Я ёй спатканне прызначаў —
яна чакае!
Я забываць усё пачаў —
хай выбачае.
Я прызвычаіўся хадзіць
па крузе гразкім.
І ўсё адзін — пагаманіць
і то няма з кім...
А радасць выблісне калі —
з кім падзялюся?
І што пакіну на зямлі,
калі стамлюся?
Чаму цябе няма са мной?
Якая сіла
Той непаўторнаю вясной
нас разлучыла?
Мы размінуліся, ці што,
і не сышліся?
Таго не ведае ніхто
ні тут, ні вышай...

* * *

Я бяру гітару —
Цень сыходзіць з твару.
І, пра што я мару,
Расказаць магу.
Што ў жыцці люблю я,
Што мяне хвалюе
І чаму зямлю я —
Дом свой берагу.

Быў калісьці горды.
Быў і поступ цвёрды.
Светлыя акорды
Лашчылі мой слых.
У траве мурожнай
Чэрвень кветкай кожнай
Празвінеў трывожна
І зусім заціх...

Светлым сном світання
Спіць зямля ў тумане.
Ну а дзень настане —
Пры святле яго
Можна лепш разгледзець,
Дзе крумкач, дзе лебедзь.
Сэрца развярэдзіць —
Толькі і ўсяго.

І ў бясхмарнай сіні
Я плыву па плыні.
Хмара след пакіне,
Калі дождж ліне.
А ці многа трэба,

Як сінее неба,
Ёсць кавалак хлеба
І вада ў збане?

Я бяру гітару —
І святлею з твару.
Пра каго я мару —
Зноў убачу ў сне.
Не царыцу ж тую,
Хітрую і злую,
Што ў пару любую
Прыняла б мяне...

***

Не абыходзь маю душу —
І ты не пашкадуеш потым.
Я суцяшэння не прашу:
Дзе быў агонь, там ёсць і попел.

Куды бяжыш? Чаго? За кім?
З якой нагоды гэта спешка?
Дзьмухні — у попеле сівым,
Магчыма, тлее галавешка.

І будзе тое, што было:
Там, дзе выжарына чарнее,
З вясною ні адно сцябло
Яшчэ крадком зазелянее.

***

Вясёлка ўстане каляровая,
Як мост між небам і зямлёй.
Іду прамоклы каля рова я,
Глушэй грымоты за спіной.

І вішні з квеценнага кіпеня
Пялёсткі сыплюць спакваля,
І запасаецца да ліпеня
Гаючай вільгаццю зямля.

І я запасся ўжо цярплівасцю —
Супрацьстаяць імкнуся злу
І, збіты з ног людскою хцівасцю,
Спяваю шчодрасці хвалу.

Як летні луг, яшчэ не скошаны,
Я перапоўнены дажджом,
І ў маім сэрцы, госць няпрошаны,
Яшчэ не хутка сціхне гром.

* * *

Я ва ўсім прайграў на свеце гэтым:
Жыў не так. Аднак каго журыць?
Ды цяпер валодаю сакрэтам,
Як на гэтым свеце трэба жыць.

Пахне бэз, і я сяджу на ганку.
Так сяджу — не мару, не тужу.
І кажу, згадаўшы пра цыганку:
— Хто наступны? Дай паваражу!

А пра што? Пра будучнасць планеты?
Нават зоркі, бачыце, гараць...
Калі вам сакрэт адкрыю гэты,
Вы таксама можаце прайграць.

* * *

Няўдача з поспехам мяжуе,
І мо таму, і мо таму
Нас пазнаёміць з ім, гляджу я,
Няма каму, няма каму.
Каб меў сваю багіню ўдачы,
Нібыта зорку ў сіняве,
Я, неўтаймоўны і гарачы,
Хадзіць бы мог на галаве.

Нялёгка на шляху цярністым —
У міліметры ад ляза...
Я на дажджы прамок вячыстым,
А на шчацэ бліпчыць сляза.
Сляза? Дажджынка, не іначай?
Я разгубіўся нездарма:
Як між удачай і няўдачай,
Між імі розніцы няма.

Усё залежыць ад абставін.
І, калі нешта неўпрыкмет
Мы з ног на галаву паставім,—
Убачым іншы сілуэт...
Пяро жар-птушкі ці падкова?
Я не шукаю іх знарок:
Удача — месяц, у якога
Мы бачым толькі светлы бок.

* * *

(Жартоўнае)

Калі ўсміхаешся горка,
На сэрцы лягчэй удвая...
Мне свеціць ясная зорка:
Няўдача — зорка мая!
Стаяць у золаце клёны,
І я душой адпачну,
Калі, трывогай стамлёны,
З'яўлюся на ўзлесак сну.
Ды зноў на зямлю ў бяссіллі,
Здарожаны, падаю я,
Ледзь толькі на небасхіле
Засвеціць зорка мая.
А зорка мая — няўдача,
І ўсім вядома здаўна,
Што нават камень заплача,
Як толькі ўзыдзе яна.
Я скарджуся: «Смех мой горкі...»
А судзіць мяне мой лёс:
«Хіба ты не маеш зоркі? —
Ён здзіўлена моршчыць нос.—
Мо хлеба няма ці масла?» —
«Хапае,— адказваю я.—
Я толькі хачу, каб згасла
Як-небудзь зорка мая!»
І ручку старой цыганцы
Іду крадком залаціць:
— Памру?
— Не інакш, як у танцы...
— А зорка?
— Будзе свяціць!

***

Я не запальваю святла,
Хоць на дварэ ўжо прысмерк шэры.
Ледзь у пакой яна зайшла,
Як зноў пастукаў нехта ў дзверы.
Я толькі выглянуў з акна:
«Ну вось, і зноў паваляць зграяй!»
Знікала радасць — дацямна
Адно свяціла ўслед зара ёй.
Насустрач выйшаў... Божа мой!
Іх больш, чым хмар на небасхіле!
І, як знарок, усе з сабой,
Гляджу, адчай мой прыхапілі.
Як чорнай стужкай, ім былі
Абвіты ўсе мае ўспаміны,
І ўраз у памяці ўсплылі
Жыцця найгоршыя хвіліны...
Ідуць няўдачы да мяне
З усіх бакоў адначасова,
І, перш чым зорка зноў мільгне,
Танцуй, мне кажуць, і... ні слова!

## АПОШНЯЯ КРОПЛЯ

Калі, пустая,
Згарыць надзея —
Душа людская
Пахаладзее.
І засмучэнні,
Што на паверцы,
Нібыта цені,
Ляжаць на сэрцы.

Ляжаць — не верце
Сваім парывам,
Спакусам смерці
І снам жахлівым!
І, нібы зданям
У белым полі,
Сваім жаданням
Не верце болей.

Калі ўсё тое,
Чым вы багаты,
Што ёсць ліхое:
Сумненні, страты,
Бяда, няўдачы,
Што вас шукалі,
І ўсе нястачы
Ляглі на шалі —

Усё адкласці
На час патрэбна,
Пакуль няшчасці
Мінуць ганебна.
Падводзіць вынік?

Ці ёсць патрэба!
Спыніць гадзіннік?
Змагацца трэба!

Прымаць рашэнні,
Рабіць высновы —
Не ў дзень асенні,
А ў міг вясновы,
Як мары ў цвеце
І вішні ў садзе,
Калі дасвецце
Мільгне ў паглядзе.

Запахнуць ружы
Або гваздзікі...
Няхай не сцюжы,
Не сівер дзікі —
Хай лепш світанне
З усмешкай цёплай,
Як трэба, стане
Апошняй кропляй!

***

Узмор'е... Сінее марская стыхія —
І ў сэрцы прыбой не сціхае!
Нібы аб уцёс, свае хвалі сівыя
Жыццё аб яго разбівае.

Прылівы, адлівы... На ім, як на ўзмор'і,
Не будзе спакою ніколі:
Настрой сапсуецца, нібыта надвор'е,—
І ветразь надзей на прыколе!

А потым і зноў бліснe раніца мая
Смарагдамі першага лісця,
І радасць, як сонца ў тумане, заззяе,
У песні шукаючы выйсце...

Прыліў то адступіць, то з шумам нахлыне,
І кожны прыліў пачуццёвы
На сэрцы трывогу і смутак пакіне
Ці радасць за поспех жыццёвы.

## ПЕРАМЕНА НАСТРОЮ

За што ні вазьміся — усё ў цябе спорыцца:
Спяваецца лёгка і лёгка гаворыцца.
З ахвотаю пішуцца нудныя планы,
Як быццам ты ў некага зноў закаханы.

І раптам усё на зямлі пераменіцца,
Як радасць твая са знявагай сустрэнецца:
Ні жартам дасціпным цябе не насмешыш,
Ні песняй журботнай цябе не суцешыш.
І ходзіш нібыта прамоклы да вечара —
І сумна, і нудна, і крыўдна так нечага.

Што зробіш, але ў перамене такой,
Відаць, вінаваты не толькі настрой:
Ён — вынік сустрэчы тваёй са знявагаю,
З людскою няўдзячнасцю ці непавагаю.

Звычайная з'ява, як я прыкмячаю:
Ад радасці блізка зусім да адчаю.
Натхненне міне — і, як засуш раптоўная,
Спякотай дыхне спусташэнне духоўнае.
І ты не ў настроі, і ты не ў гуморы —
Душою і целам ты робішся хворы.

І праца не цешыць, і песня не радуе,
Ды толькі не скажаш: «Шукаю параду я...»
І сэрца нідзе не знаходзіць спакою.
Ратунак адзін — перамена настрою.
Чакаю пакутліва зноў перамены я:
Прамень залаты або вочы праменныя.

* * *

Мой настрой, калі ты пагаршаешся,
Я за марай бягу веснавой,
Быццам нешта шукае душа яшчэ,
Абяцанае некалі ёй.

Мой спакой, калі ты парушаешся,—
Траціць сілу і ўсякі статут.
Не знаходзіць занятку душа яшчэ
Без ранейшых трывог і пакут.

Сняцца ёй завірухі паўночныя,
Звар'яцелага ветру выццё...
Хоць былі тады суцемкі змрочныя —
Маладое шумела жыццё!

***

Я развітваўся з горадам кожным,
З кожнай сцежкай сваёй і світаннем,
Што трымцела на небе трывожным,
Пунсавеючы золакам ранніх.
Я развітваўся з кожнаю птушкай,
З кожным новым ключом жураўліным,
З кожнай ластаўкай і амялушкай,
Што на радасць і ў смутку жылі нам.

Як магло гэта здарыцца, стацца,
На каго наляцець мне са злосцю,
Што, нібыта знарок, развітацца
Я не змог са сваёй маладосцю?
Як знарок, яе песні аднекуль
Мне даносіла звонкае рэха.
Яе голас,
паўтораны некім,
Напаўняў мяне веснаю ўцехай.

Яе водбліск асколкамі промняў
Мне так доўга сляпіў яшчэ вочы,
Што я толькі тады апрытомнеў,
Калі гоман заціхнуў дзявочы.
Але змен не прадбачыў яшчэ я
І жыццю не выказваў нязгоды:
Я не думаў,
што ён пацішэе
І замоўкне ў душы назаўсёды.

І, вандруючы ў небе высокім,
Не паспеў яшчэ ветах скрывіцца,

Як галінку, залітую сокам,
Я крануў на вярбе красавіцкай.
І не трэба было мне пытацца,
Чаму стала святлей над зямлёю...
Мо і добра, што я развітацца
Не паспеў з маладосцю сваёю.





# ЗМЕСТ

*Сустрэчы і захапленні*



*Жанчына і мужчына*



*Ты — мой радасны спеў*

СВЯТА ЎРАДЖАЮ



*Мядовы месяц верасень*

ЧАС ДЗЬМУХАЎЦОЎ

ПЕРАМЕНА НАСТРОЮ




Литературно-художественное издание

*Миклашевский Евгений Васильевич*

ЗОРЬКА РАННЯЯ,
ЗОРЬКА ВЕЧЕРНЯЯ

*Книга лирики*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

*Міклашэўскі Яўген Васільевіч*

ЗАРА-ЗАРАНКА,
ЗАРА-ВЯЧЭРНІЦА

*Кніга лірыкі*

Рэдактар Р. М. Яўсееў
Мастак У. В. Гладкевіч
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал
Карэктар Н. У. Доваль

ІБ № 3043
Здадзена ў набор 16.06.88. Падп. да друку 02.11.88. АТ 09724. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,60. Ум. фарб.-адб. 7.90. Ул.-выд. арк. 6,71. Тыраж 3000 экз. Зак. 1565. Цана 1 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Міклашэўскі Я.**

М59 Зара-заранка, зара-вячэрніца: Кніга лірыкі.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 205 с., іл.

ISBN 5-340-00203-9.

Миклашевский Е. В. Зорька ранняя, зорька вечерняя: Книга лирики.

У новую кнігу Яўгена Міклашэўскага ўваходзяць вершы ўсіх жанраў лірычнай паэзіі — ад балад і паэтычнай публіцыстыкі да пейзажных замалёвак.

Паэт імкнецца асэнсаваць сацыяльна-грамадскія з'явы, якія адбываюцца ў нашым жыцці, разважае над спрадвечнымі праблемамі дабра і зла, любові і нянавісці, сэнсу чалавечага жыцця, праслаўляе адвечную працу чалавека-працаўніка.

$М \frac{4702120202-013}{М 302(03)-89} 59-89$ **ББК 84Бел7**